Валянціна Коўтун



# НА ЗЛОМЕ МАЛАНКІ

Валянціна Коўтун

# НА ЗЛОМЕ МАЛАНКІ

лірыка

МІНСК
«МАСТАЦКАЯ ЛІТАРАТУРА»
1981

## КАЛАСЫ

Яшчэ тады, у дыме грамадзянскай,
На залацісты сноп паклаўшы серп,
Радзіма-маці проста,
па-сялянску
Уплятала каласы ў Дзяржаўны Герб.

На іх тады цвілі не толькі росы,
Не толькі золак песціў каласы —
Крывянілі маёй зямліцы слёзы
І спелі пакаленняў галасы.

Хлеб батрака,
рабочага,
салдата.
Тугіх снапоў гарачае асцё.
Зацеплілася ў кожным з тых зярнятаў
Штыкамі перацятае жыццё.

Радзіма, з квецені твой лёс сатканы,
Мая трывога ты
і мой спакой.
Ты сына майго чубік саламяны,
Як я, пагладзь пяшчотнаю рукой.

Нам трэба шмат яшчэ з табой адолець,
Каб кнігу праўды перад ім раскрыць,
Каб хлеб яму ў шляхі пасыпаць соллю,
Як толькі маці ўмее пасаліць.

Каб зберагала памяць тое вечна,
Ты кожны год,
на сноп паклаўшы серп,
Радзіма-маці, проста і сардэчна
Уплятаеш каласы ў Дзяржаўны Герб.

# ТЫДЗЕНЬ ГАДЗІННІКА

## 1

Адгаварыў гадзіннік, адзвінеў.
З рукі, здавалася,
Гарачы час сарвецца.
Ён правяраў, як доктар, у мяне
Усё жыццё тугія ўдары сэрца.

Заручыць поўдзень з новаю вясной,
Каб на зямлі
ужо ні на хвіліну
Не прыпыняў хады гадзіннік мой,
Падкручаны маленькай ручкай сына.

## 2

Гадзіннік сонечны, які ты?
Як ненавідзеў?
Як любіў?
Вякоў гарачыя арбіты
Цень востраю стралой прабіў.

Пакажа цень, што вечар блізка,
Калі жрацы спраўляюць суд:
Камусьці слава, як калыска,
Камусьці галаў з плеч вось тут.

Чакае некага пустыня,
Ілжэ, карае, прадае...
І толькі помста, як рабыня,
Пяро паэту падае.

3

Трывожна робіцца манаху,
Яго душа у сне гарыць.
Хоць сам сябе вядзі на плаху —
Зняверыўся манах стары.

Няма пакоры і ў паміне,
Малітву ў торбу — і жабрач.
Пачуў — спяшаецца гадзіннік
Усё наперад, хоць ты плач.

Усё бягуць, бягуць імгненні
Яго душы наперарэз.
Усё жыццё ён на каленях,
А тут — падняўся, уваскрэс.

Празрэў манах!
Ды страшна памяць
Агнямі вогнішча ўстае,
Мінулае нясцерпна раніць:
Час індульгенцый не дае!

А катам ты не быў, напэўна,
Пастух чужых малітваў-слёз.
Але —
хоць і адно! — палена
Ў касцёр Джардана ты прынёс?!

Празрэнне блізка, блізка, блізка,
Не ўратавацца і бягом.
І вечар, тоўсты, як епіскап,
Навальваецца на яго.

О, цемры раб, празрэў у здрадзе
І зразумеў адно стары,
Што не згарэць ніколі праўдзе
На інквізітарскім кастры.

## 4

Такі штукар...
Ды вось не ўгледзеў,
Рукой асколак не злавіў.
І цепляцца хвіліны ў снезе,
Нібы бруснічыны крыві.
Яшчэ наперадзе Еўропа.
Яшчэ дыміць салдацкі шлях.
Хвіліны мерзнулі ў акопах
І ноччу спалі ў шынялях.
Байцам падносілі патроны
У скрынках вогненных гадоў.
...Не гаснуць зоркі на пагонах
Непераможных гарадоў.
Ды ёсць апошняя хвіліна,
Імчыцца з куляю яна.
Для бацькі, можа, ці для сына...
Ў хвіліне той уся вайна.
Наперад пойдзе перастрэлка,
Ды снег ляціць за каўнярок,
Як спыніцца у сэрцы стрэлка
І зроблены ў бяссмерце крок.
Да перамогі шлях адзіны.
Снег у салдата на шчацэ.
І слухае уся краіна
Гадзіннік на яго руцэ.

## 5

Першакласнікаў звонкае веча,
Лета бабіна справіла баль.
У сандаліках лёгенькіх вечар
Пабяжыць па асфальце ўдаль.
Ўслед за марамі жураўлінымі
Паляцець бы — ды крыл не стае.

Бо маленства яшчэ не хвілінамі,
А гадамі жыццё спазнае.
А гадзіннік маломý як цацка:
Што там цікае унутры?
Пашкадуе хлопчыка бацька,
Возьме ў рукі будзільнік стары.
Ён адкіне бліскучае вечка —
І вачам адкрыецца цуд.
Ёсць надзея у чалавечка,
Што і ён зразумее ўсё тут.
Ты сталееш і падрастаеш,
Толькі казку, сынок, беражы.
Бачыш, стрэлка марудзіць малая,
А вялікая — аж бяжыць.
Лічбы дзён і вякоў карагодзяць.
Стрэлкі цэляцца ў сіняву.
Я гадзіннік твайго паўнагоддзя
Буду слухаць... Калі дажыву...

6

Чуем не гадзіннікі — сябе.
Механізмы сэрцаў рамантуем.
Шасцяронка нейкая скубе
Дзень за днём, бы аблачыну тую.
Ў час такі зірні ў майстэрню сам,
Кінь душу на стол, нібы на плаху.
Ёсць гадзіннікі і з тых,
Даўнейшых, крам,
І з сягонняшніх універмагаў.
Вось адзін...
Іржавыя разцы,
Ледзь скрыпяць натужлівыя хвілі.
Так вось грошы некалі купцы
За дзвярыма поначы лічылі.
Падпіліць, падмазаць, падагнаць...

Прывіды хаду эпох не спыняць.
Лепш за ўсё, сябры, рамантаваць,
Калі стаў звычайны наш будзільнік.
...Так захочаш стрэлкі акрыліць,
Каб плылі у вырай незваротна.
І душы, як некалі, узлётна,
І душы, як некалі, баліць...

## 7

Ды няма гадзінніка таго,
Па якім дзяды яшчэ сачылі
Час сяўбы, і летняе жніво,
І жыццё з калыскі да магілы.
На сцяне ён чорнай не вісеў,
Не мянташыў час пад абразамі.
І вякі пляліся пакрысе
За сялян рыпучымі вазамі.
Абрасло барадамі сяло,
Толькі памыляліся там рэдка.
Час пакажа ластаўкі крыло,
Сонца ў небе, палявая кветка.
Дні пазначыць сціснуты кулак...
Навальніца вырасла ў народзе.
Абчасаў сякераю бядак
Новы зруб дваццатага стагоддзя.
Ты красуй, красуй, мая зямля...
Да грудзей радзімы прыхінуцца б!
І адчуць —
хвіліны так нясуцца,
Б'юць куранты вечнага Крамля.
Ўсё зямное дыхае жыццё.
І маё, стамлёнае, трапеча
Матыльком у пальчыках хлапечых,
Нібы вечнай праўды адкрыццё.

# БАЛАДА БЕЛАЙ ЛІЛЕІ

> Цяпер на Захадзе ўсё мацней гучаць галасы, маўляў, калі б не было Жанны Д'Арк, калі б яна не ўмяшалася ў натуральны ход гістарычных працэсаў, усё еўрапейскае і нават сусветнае развіццё пайшло б па-іншаму. Гаворыцца гэта з выразнай крыўдай на Жанну.
>
> *З часопіснага артыкула*

Ідзе вясна па белым свеце,
І нам трывожна: недзе зноў
Палаюць будучыні дзеці
Ў напалме атамных гадоў.

І птушкі, што цяпло прарочаць,
Буслы, вясеннія майстры,
Над гнездзішчам жыцця клякочуць
І крылы ўзносяць, як кастры.

Чарнела небнае гарышча,
Мячы звінелі угары.
Ды штораз гордае аблічча
Нібы прасвечвала муры.

Быў час,—
                прыйшла трывожна-смелай.
І хруснула нябёсаў стынь.
Пастушка з Францыі гарэла
У ціхай вёсачцы Хатынь.

Давілі тлустыя аблокі,
Як дым руанскага кастра.
«Баюся здрады я — і толькі.
Так жорстка — здрадаю караць!»

І там, дзе груд гісторый тлее,
Адкінуўшы кальчугу хмар,
Свяціцца белаю лілеяй
Сляза народаў, Жанна Д'Арк.

Патомкі жорсткіх інквізіцый.
Фашысты... Нео... Гвалт пагонь...
Бягуць,
бы карнікі,
вазніцы,
А перад імі — белы конь.

Імчыцца ён пры ўсім народзе
Святой дарогаю ахвяр.
Ў сядле апаленых стагоддзяў
Крывінка болю, Жанна Д'Арк!

Малітва рук над галавою.
...А вы ў касцёр смяротны зноў
Сваю падкладваеце зброю
Замест
агню падданых
дроў.

Прарокі неаінквізіцый.
На чыстым твары — важкі бот.
Са смерцю —
здрадніцтву радніцца,
Не здрадзіш толькі ты,
Народ!

У цэнтры атамнага гета
Нясе
агнём абліты
сцяг
Лілея белая планеты,
Нязкораная Жанна Д'Арк!

# ТРЫПЦІХ ДА ПАЭТЭС

Дайце, жнейкі, серп займісты...

*Цётка*

## 1. СЕРП

Услед за ёю,
за сястрою,
Ідзі ў працяг палёў зарою.
І серп твой звонка-залаты,
Сарваўшы раніцу з далоняў,
Пачне жытнёвыя рады,
Дзе спеюць
Заўтра і Сягоння.

Глядзі:
Па вогненнай расе,
Па камянях,
Па недароду,
Па незагойнай паласе
Ляціць сярпок майго народу.
А ён ляціць з далёкіх ніў,
А ён імчыцца ў свет шырокі.
Ірвуцца віселіц вяроўкі,
І лопаюцца рамяні.
А ён крапіўны попел жне
Па вёсках спаленых
і хатах.

Снапы...
Як польныя салдаты.
І жнеі —
вы як на вайне.
А серп ляціць з тае мяжы,
Дзе маці спехам корміць сына.

Ў імгненні стоена-адзіным
Цябе хвалюе шэпт: «Скажы!»
І займе дых,
і ўловіць слых,
Што серп чакае рук тваіх.

## 2. ЛЕКІ

Каб здарылася так аднойчы,
Каб лекаркай вясковай ноччу
Табе, спатоленай, здабыць
Агню і ветру лекі-песні
З траў баравых і зёлак весніх,
Сівых калодзежаў, крыніц...
О, як бы лекі пацяклі
Ў акопы, дзе туман астылы,
У раны роднае зямлі,
Яшчэ — у брацкія магілы,
У вочы выцвілыя ўдоў,
У сны ваенных паштальёнаў...
А над маёй зямлёй зялёнай
Крыляюць выраі гадоў.
Ды ці не трэба зёлак тых,
Каб ацаліць нямыя душы
Ад здрады, страху, раўнадушша,
Ад пошасці і нематы?!
Ды ці не трэба чараў тых,
Што ўсё параненае лечаць,
Што падымаюць зноў масты
Над памяццю асохлых рэчак?
Ды ці не трэба палу слоў,
Каб не асмягла сэрца сына?!
Зямля...
Гісторыя...
Айчына...
Надзея, вера і любоў!

## 3. СЛОВА

Пачаць нязмоглае нанова,
Пачуць на вуснах тое слова,
Што расцвіло салодка ў полі,
Што загарчэла ў палыне,
У кузні спела на вуголлі,
У студні бацькавай —
на дне!

Прамужна,
праведна і смела,—
О, як бы слова зазвінела,
О, як бы слова запытала:
Ты здолеў,
Ты паспеў,
Ты змог?!
Прынёс ты песень гэтак мала
З трывожных,
высненых дарог.
А слова вызнала пакуты,
А слова выцерпела путы...
Яму, паўстанцу-касінеру,
Язык гарачы аднялі —
Пасланняў белую паперу
Нямыя словы апяклі...
Нас дарагія словы паляць,
Калі ўзыходзіць светла памяць
Аб тых,
аб першых камісарах,
Маіх няведаных братах.
На акрываўленых папарах
Яны ляжаць, як
на шчытах!
...Пачаць нязмоглае нанова.
Пачуць у сэрцы тое слова,

Што расцвітала,
што балела,
Што палымнела на сцягах,
Што ў зорных
знойдзена шляхах
І у дарозе
белай... белай...
Хацелася [redacted] цяплом
і болем
Ісці
сваім жытнёвым полем.
Хацелася не так сурова
Жаночым лёсам даражыць...
Расці, мой сын,
дапамажы
І абяцай Радзіме
Слова!

## СТАРАЯ БАЛАДА

Званы гудуць.
Малітву правіць паства.
Світальны промень сціплы, нібы госць.
А ў вёсачцы,
У трыдзесятым царстве
Жыла дзяўчына... Мроя...
Маладосць!
Дачка жняі і грознага Пяруна.
Бы кветкі, вусны.
Зоры — у вачах...
Жаўцеў сланечнік, нібы кола бубна.
Свяціла поўня доўга па начах.
І сваякі варожаць і суседзі,
Ў каго ж яна нявесткай будзе жыць?!
Ды паства грозна вырашыла: ведзьма!
І асудзіла, жорсткая: ўтапіць!
І задрыжэла вогненная круча,
Трывожны бусел сцішыўся ўгары.
Яна звінела стрункаю пявучай,
Яна ляцела ў чорныя віры.
Хавалі боль сузор'і і планеты,
Лавілі крык нябёсы і вякі.
На важкай хвалі плавілася лета.
Суседзі, дзе вы?
Дзе вы, сваякі?
Ды ўсе яны спалохана маўчалі.
Палаў сланечнік і крывіў брыво...
І раптам хлопцы кінуліся ў хвалі,
Ратуючы любоў і хараство!
...Прайшлі гады па трыдзесятых
царствах,
Шчыруе сонца весела ўгары.
Калі ж ахвяры выбірае паства,
Зноў юнакі кідаюцца ў віры!



Звіні, мой свет, надзей маіх зямля,
Ты дыхаеш азёрамі, лясамі.
Зялёнымі атуліць галасамі
Сасна надзей дарогу спакваля.

Дзе з гнёздаў сініх раніцы святло
Трапеча птушаняткам на узлёце,
Планету крыл світаннем заліло,
Планета песень спее ў адзіноце.

Лісток малы, як цень далёкіх сноў,
Страсае на шчаку расы ільдзінку,
І ты баішся, што наступіш зноў
На нечы боль
ці на святла галінку.

# ЧАРЭШНЯ

Маленькі двор, адкуль выходзяць пеша...
Квітнее памяць, як вішнёвы сад.
Ў майго суседа княжыла чарэшня,
Была адна,
адна на сорак хат.

Дзяўчынкі-хлопчыкі
пасляваеннай вёскі,—
Мы сябравалі з кожным вецярком.
І сніліся нам зоркі, і бярозкі,
Ды жмені ягад,
нават з каптарком.

Мы думалі, малыя, аб прынадзе,
Сыходзіліся сцішана не раз
Да плота, за якім Барбос у садзе
З такой увагай пазіраў на нас.

Чарэшня вабіла,
цвіла гарачым сцягам.
І мне здалося ў нечаканы міг:
Вось-вось дастану да салодкіх ягад
І стану шчаслівейшаю за ўсіх!

...Былі прыгоды розныя па часе.
І я забыла ўцеху сініх дзён.
Але ў трывожнай клопатнай кудасе
Мяне ударыў раптам гэты сон:

Маленькі двор, адкуль выходзяць пеша.
За плотам — сад.
Сябры кругом стаяць.
Так блізка — песня.
Спее, як чарэшня...
А мне ніяк да ягад не дастаць!

# ЕЎДАКІІ ЛОСЬ

Зрываюць песні,
                як з бяроз бярosту...
Палаюць вёсны. Крышацца сады.
Мы ўсе ідзём да той мяжы і ўзросту,
Калі сказаць нялёгка пра гады.
А я твой шлях кароткі бласлаўляю.
І хто там скажа, што паўторыць шлях?!
Не спіць,
Не гасне
І не памірае
Святло жанчыны ў стуленых вачах.
Плывуць крыжоў гарачыя аблокі,
Кіпіць трава на мове каранёў.
Бяссмерце — там...
А крок будзённы
                лёгкі!
Мы твой пагорак, пэўна, абмінём.
Але ў агні,
                у горкім азарэнні,
Калі рукой дастаць да адкрыцця,
Перацярпеўшы ўзлёты і падзенні,
Мы зразумеем сімвалы жыцця.
Сярод імхоў бетоннага прагрэсу,
Калі душа з тваёю на мяжы,—
Дай бог дажыць да ўзросту паэтэсы,
Дай бог да паэтэсы нам дажыць!

# БАЛАДА ПАЛЕСКАЙ ПЕСНІ

Стагоддзя зааблочныя вароты
Маёй бабулі
адчыняць пара.
Спявае ціха
ці сумуе ўпотай —
Клубочкам сонца коціцца з двара.
А следам — памяць.
Залатое ззянне.
Яна — дзяўчынка
і бяжыць у бор.
Нібыта што шукае на світанні:
Давер які,
які сунічны ўбор?!
Кране нагой ледзь бачаную сцежку,
Што нас вядзе праз песню
і святло.
І вось ужо мелодыя,
бы ўсмешка.
І звонкім лісцем сэрца абняло.
Спявай, дзяўчо!
Будзі лясныя сховы!
Спрадвечны спеў
сасонкай уваскрэс...
Сяло гудзе!
Для ўсіх кабет вясковых
Адна загадка:
Што ёй гэты лес?
Шукае што?
Які там сум дзявочы?
Якія справы праз гушчар вядуць?
Скажы, што песня,—
засмяюць у вочы.
Скажы, што мроя,—
веры не дадуць.

Скажы: каханне,—
зганьбяць пры народзе...
— Дармо, жанкі!
Расце ў бары сасна,
Каля якой
пры месячнай нагодзе
Скарб закапалі...
Знаю я адна!
Такое зразумеюць і паверацъ,
Сачыць пачнуць:
а што, калі ды ёсць?!
...Рыпяць гады,
нібы старыя дзверы.
Бабуля ўспамінае маладосць.
Яе пацешыць
маладая згадка,
Зноў павядзе праз баравы пажар...
А нехта скажа:
— Глянь, пайшла вар'ятка.
І зарагоча:
— Зноў шукае скарб!

## ВЯСЕННЯЯ МЕЛОДЫЯ

Смуга кацілася на лавы,
Плыла вячэрняй гаманой.
Аркестрамі старой канавы
Абсягі трызнілі вясной.

Пасля зімовага заціпша
Вясна адгадвала сакрэт.
Цвілі цнатою белых вішань
Сады збядованых кабет.

І песня радасці і кветак
Ішла ў сяло праз вечары,
Дзе ў гурт спяшаліся кабеты
На перашэпты у двары.

Плыў у разводдзе згадак човен,
Ажно святлела уваччу.
А ў сне малы якісь «Бетховен»
Ужо мелодыю пачуў.

Жанкі адчайна маладзелі
Наўкруг калодзежа надзей.
А ў сне малы якісь «Растрэлі»
Аловак грэў каля грудзей.

Было і голадна,
і цесна,
Ды ў светлы шлях сяло пайшло!
А ўсё —
жанчын стамлёных песня,
І ў свеце лепшай не было.

## ТРЫПЦІХ КАЛЫХАНКІ

### I

Не адпачыць пад лісцейка акрасай,
Не засланіцца маладым галлём,
Калі бярозу залатым абцасам
Ударыць першы неразумны гром.

Праз хмару зноў
Вясна мая праменіць
Святло дабра і летуценны грай.
Белагаловы хлопчык на каленях
Шкадуе маці ціха:
— Баю-бай...

* * *

Вы касавіцу адгадалі
Маіх трывог, маіх надзей.
Паміж высокімі гадамі
Касец упраўны ўжо ідзе.

Шырока сцелюцца пракосы,
Дрыжаць расінкі на траве.
Вужамі жоўтымі пад косы
Атава горкая плыве.

Бай-баю...
з постаццю танюткай.
Бай-бай...
сінеча вачанят.
Па кладцы коціцца,
па гнуткай
Клубочак сонца ў далягляд.

Гады ў дарозе не прысталі,
І, як каліські, хмеліць май...
Па чым жа косы адгадалі
Час незваротны?..
Баю-бай...

## II

Калыхаю...
Калыхаю...
Калыхаю...
Ў белы свет стралу зялёную пускаю.
У сасонкі [redacted] рукава ляціць вятрыска
Не высока над Радзімаю,
не нізка...

Палатна з травы вясна мая наткала,
Сінім верасам сарочкі вышывала.
Пад жалезам пакрышыліся кашулі,
Пад ракітамі сыны мае паснулі.

Баю-баю...
Капыты — як бліскавіцы.
Баю-баю...
На мячах і на ствалах раса імгліцца.
Калыханку сярод бору засяваю.
Ой, зямля мая,
калыска.
Баю-баю...



Дажджы — як стрэлы сіняга прадвесня.
Гарласты гром расколе крохкі дол.
На вільчаку маёй гарачай песні
Гайдаецца буслінае гняздо.

Бай-баю птушкам,
Люлі буслянятам.
Мінецца час —
раскрыліцца палёт.
Спявайце, маці.
Вышай стала хата,
Бо ўжо калыска хаты пасярод.

Калі ракіту кіпень-дождж ашпарыў,
Над полем стогн:
— Каханая... мая...
І працінае сэрца ўсмяглай хмары
Калючы промень вастрыём кап'я.

Не абміне агорклая здагадка:
Ірвецца песня з хаты недарма.
Каханая гадуе немаўлятка,
А казачэнькі з выраю няма...

III

Засяваю «баю» дожджыку-сыночку,
Доўга йшоў малы...
Каторы дзень і ночку.
Ўсмяглі вёсны,
зімы абгарэлі.
Ногі ў чобатах вялізных ці балелі?

Баю-баю...
Не па росту гімнасцёрка.
Толькі попел асыпаецца з пагорка.
Каміны зайшліся —
сніцца дым барвовы.
Мокры чубік з-пад пілоткі —
ды на бровы.

Баю-баю...
Не дажджынкі, а шрацінкі.
Бой закончыўся.
Засні салодка, сынку.
Хмара коўдраю ляціць на папялішча,
А за вёскай вецер зранены ўсё свішча.
Ці пакласці мне малога пад бярозай,
Той, чацвёртаю...
　　　　　　　　без лісцяў і без росаў.
Ці да сэрца прыгарнуць той дождж —
Не знаю.
Колькі год яно смыліць мне...
Баю-баю...

* * *

Калыханка надзеі да рання крыляе.
Калі сэрца уздрыгне — і сіл не стае.
Недзе ў вёсачцы певень апошні гарлае,
Нібы мне не прачнуцца без песні тае.

Чарнабрыўцамі вокны падпальвае чэрвень.
Над астылымі стрэхамі зоркі мігцяць.
Нават ночы баліць —
　　　　　　　　　　захлынаецца певень,
Быццам сонцу
　　　　　　　　без гэтага крыку не ўстаць.

# СІНЮШКІ

Ляцяць пад ногі залатыя стужкі.
Каля дарог,
у шыгаллі лясным,
Зацìснуліся ў купіну сінюшкі,
Нібы баяцца нечага яны.

І мне тады згадалася паданне
Пра тых дзяўчат, якія тут жылі.
І кожная — з блакітнага світання,
І вочы ў кожнай росамі цвілі.

Лясныя феі, дзён юначых мроі,
Адна з адной у згодзе і дабры.
Вас напалохаў восеньскай парою
Ці вецер з-за карча?
Ці лось стары?

Ці, можа, паляўнічага пагоня?
Ён, летуценнік, весела ляцеў...
А жылка ўтомы білася на скронях,
А страх, як дождж, у голлях шапацеў.

Той паляўнічы заблудзіўся быццам...
Ды ўслед за вамі праз агонь дуброў
Трывога, як галодная ваўчыца,
Не адстае, саскі абдзёршы ў кроў...

Куды ж вы, феі?
Гінуць вашы душы...
Каля дарог, у шыгаллі лясным,
Зацìснуліся ў купіну сінюшкі,
Нібы баяцца нечага яны.

## ЦЫГАНСКАЯ ЭКСПРЭСІЯ

Сыны вятроў,
Унукі першай зоркі...
Ваш след астыў на бацькавай зямлі.
Скажыце, як
ў шляхах салодка-горкіх
Вы песні продкаў
мужна зберaглі?!

Гарaць кастры,
пра даўняе гавораць.
З размаху б'юць старыя капыты.
Як многа песень высушыла гора,
Як мала песень выйшла з нематы!

О зорны бог!
Няўрымслівы і ўпарты.
Ты зведаў шчасце,
Выцерпеў падман.
Падняўшы джала
з чэрапа пагарды,
Змяя выгнання
страшыла цыган.

Не гнеў, а боль...
Не гром, а сум знямогі...
Гітарны спеў зацёрты да крыві.
А ў рукавах —
бясконцыя дарогі,
І толькі плечы
пыл сівы абвіў.

Стары цыган трывогай-таямніцай
Цугляе сны дзіцячыя здавён.
Хай крыкне птушка,

Дрогне кабыліца
І паімчыцца спуджана ў палон.

Ляцяць насустрач высмяглыя травы,
Нясуцца кручы,
                    коцяцца агні.
Ёсць толькі лёс...
Няма падманнай славы.
Ёсць толькі песня...
Роспачы — ані!

Спявай, цыган, у месячным абозе.
На струнах
                    пальцы чуйныя крыжуй...
Ты не пакінь, зямля, яго ў трывозе.
Ты падай, зорка,
                    ў светлую душу.

## ПРАДНАВАЛЬНІЧНАЕ

Сухой галінай дрэва не параніць.
Травой забытай вёсны не вярнуць.
А хтось пачуў вятроў маіх дыханне.
А будзе вецер,—
будзе рэй агню.
Калі чало бараздзяць зараніцы
І зорны ключ павернецца ў замку.
Нас апячэ пякелле інквізіцый,
Нас кіне боль у вечную раку.
Аркестраў слуп. Суцішак матылёвы.
Прычасце вёснаў. Помарак двароў.
З бусліных біблій скрыленыя словы
Ляцяць, нібы абраннікі вятроў.
Ідуць па небе хмары, як манахі,
Схаваўшы пад сутанамі грамы.
Не варухнуцца высмяглыя страхі,
Не адрачэмся навальніцы мы.
Вірує ўзвей. Праходзяць пакаленні
На зломе жыта, сцежак, бліскавіц.
І толькі вецер маладым аленем
Губою схопіць кропелькі крыніц.

## ЛІПЕНЬ

Раі бухматыя на ліпе.
Пагорак зноў дыміць травой.
Кляновы ліст
                да сцежкі ліпне.
Дзядоўніка дрыжыць брыво.
Здаецца,
          ластаўкі паснулі.
У цень схаваліся хіба?
Зямля
       вунь тую хмарку
                        туліць
Да успацелага ілба.

## КАЗАЧНІЦА

У вёсцы то мяцеліцца, то веснідь,
То залаціцца каля плота ўкроп...
І травы чарадзейныя, і песні,
І — ўсё жыццё! — насіла баба горб.
Палола ўлетку высмяглыя травы,
Цягала дні ў прыполе, як траву.
І чорнай хусткай крыўды і пагарды
Яна ўкрывала моўчкі галаву.
Заляжа боль, і стане маці млосна,—
Адразу кліча бабу да сябе.
Здавалася, старая носіць зёлкі
У тым вялікім, як зямля, гарбе.
То пойдзе ў свет бясконцаю дарогай,
То адпачне на цвёрдым дзірване.
І хто з нас ведаў, што нясе нябога
Наш боль і голад на сваёй спіне.
Сялянскі стогн, і важкай працы ўтому,
І курганоў сівое забыццё,
І крыўды нашы, бы камені грому,
Цягала баба ўсё сваё жыццё.
І толькі казкі цёплымі начамі
Яна складала ў хвілі залатой.
Смяяліся у сне яны, крычалі...
Не казкі, дзеці...
Сніцца абы-што!
Было няўцям у радасным маленстве,
Што лёс імчаў за лекаркай, бы змей.
Ад нас, малых, было ў хаціне цесна:
— Расказвай, баба, не маўчы... далей...
І грознай пугай зноў Іванка ляскаў.
І балаціну чорт цануры гроб.
Мы ў свет выходзілі, нібы асілкі, з казкі,
І не баяліся, што ў казачніцы горб.

## АРАБІНЫ

Прабіта восень градам арабін.
Адкуль у ягад выспеленых смага?
Трапеча залатым, гарачым сцягам
Над пожняй раніц
журавуліны клін.

Ах, арабіны...
Полымя уздых.
Далёкіх зорак жнівеньскае веча.
Няхай плыве паміж лістоты свечка
Усіх надзей і безнадзей маіх.

Засыпаў сцежкі восеньскі агонь.
Бабулін сон
вятры па свеце гоняць.
Забылі ўнукі.
Арабіны — помняць!
І болю грона крышыцца ў далонь.

Сляды унукаў стынуць у двары...
Нашто галіна ў ягадах старая,
Нашто бабуля ў вёсцы памірае,—
А дрэва,
як шалёнае,
гарыць?!

3 Зак. 1686

# ЗАЙЗДРАСЦЬ

(Паводле народнага)

Ох, мудрая, паблажлівая старасць!
— Нашто ў жыцці ты быў багаты, дзед?
Стары смяецца:
— А найбольш на зайздрасць,
Усё жыццё зайздросціў мне сусед.

Жаніўся я, ўзяў жоначку на ўдачу,
Такой не знойдзеш, хоць аб'едзеш свет.
Ды раптам захварэла...
Днямі плачу...
А мне зайздросціць з-за сыноў сусед.

Сыны і праўда —
волаты, асілкі.
А выраслі —
і паляцелі ў свет!
Дамоў не едуць, шлюць адно пасылкі...
А ён і ў сне зайздросціць мне, сусед!

Зімой было...
На роўным паслізнуўся.
Перакруціўся, людцы, белы свет.
Кульгаю, бедалага, крукам гнуся,—
Чаму ж цяпер зайздросціш мне, сусед?

Нага нагой, ды галава — на месцы!
Ды сіла во!
Хоць я ужо і дзед.
А пражыву гадоў не сто, дык дзвесце,
Калі зайздросціць будзе мне сусед!

## ХОМКАВА ЖОНКА

(З народнага)

Яшчэ няма абеду,
А жонка ў садзе спіць...
Ну, пачакай, кабета,
Дай божа правучыць.

Калі так добра спіцца
Той жоначцы...
Дарма!
У жончынай спадніцы
Да печы стаў Хама!

Прачнулася кабета
Ды бачыць праз акно,
Што гаспадарыць нехта
У хаце ўжо даўно.

Каля свайго падворка
Стаіць яна, бы ў сне.
— Дык Хомкава я жонка?
Ці гэта я,
Ці не?!

Вось ета двор Андрэя,
А ета двор Нупрэя,
А тут
І хата Гната,
А вось
І наша хата.

Ў акно глядзіць кабета,
Не адвядзе вачэй:
Стаіць ля печы нехта,
Стаіць, блінцы пячэ.

Пячэ — дык гаспадыня.
А, значыць, я — не я.
Чужыя куры, свінні,
І хата — не мая!

А па сяле гамонка
Бяжыць з канца ў канец:
— Дык Хомкава то жонка?
— Мо гэтак, можа, й не...

## КРУЧА

Палеская песня

Да цераз сяло Замоськае
Ішло войска казацкае,
Папераду войска конік бяжыць,
А на коніку казак сядзіць,
У правай руцэ меч трымае,
А з таго мяча да кроў сцякае,
А з той крыві слёзка ўпала,
А з той слёзкі рэчка стала...

*З даўняй песні*



Ідзе па вёсцы Талака.
Бы немаўля ў калысцы — ранак.
Струменем пахкім малака
Цячэ туман з рачнога збана.

Даспела лета.
Са двара
Ідзе і хіліць колас долу.
Хай пырсне сырадой!
Пара...
Пара выходзіць, людзі, з дому.

Прачніся, маці, і цяпер
Збярыся жаць, бо на дасвецці
Паколецца залётны вецер
Аб твой ахаладалы серп.

* * *

Пакачу валашковы вяночак
Па лугах, азярынах, далах,
Светлых раніцах,
чорных ночках,
Па зязюльчыных вечарах.
Пакачу па сунічных палянах
Ды па кладках,
вярбовых мастках,
Пакачу па гаючых туманах,
Сініх зёлках і шорсткіх лістках.
Прыкачу да жытнёвага поля,
Хай зачэпіцца ён за сярпок.
Хай далоні жнеі паколюць
Аб гарачы цубкі каласок.

* * *

Не туман,
Не туман,
Не туман...
Наляцела варожая хмара,
Ахапіла чорным пажарам
Поле спелае тут і там.

Неаднойчы, роднае поле,
Ты гібела ў абдымках агню.
Расаўніца трасе у прыполе
Учарнелую спарынню.

Жыта-жыцейка,
Колькі разоў
Ападала тваё калоссе
Не пад жнеяў сярпамі вострымі,—
Пад маланкамі
капытоў!

Дым асядзе на грудзі палян.
Першы сноп
калыхае жнейка.
З вуснаў збегла крывавая змейка
У туман...
У туман...
У туман...

* * *

Замры на падлёце, падкова!
Хай коннік на кручу імчыць!
У сініх вірах шчупаковых
Аб дно капыто зазвініць.
Зламайце,
Спыніце,
Адкіньце,
Сасонкі, чужую стралу...
Дзядоўніку шорсткае лісце
Адчайна бароніць зямлю.

Плакун-трава:

Калі заплакалі дарогі
Паміж абвугленых ляшчын,
Агонь аленем чарнарогім
Галіны ўсохлыя крышыў.

Ляцеў праз светлыя паляны
І капытом гарачым сёк
І чабары, і светаяны,
І дзеразовы верасок.

Кіпелі спелыя чарніцы.
Да забалочаных лаўжоў
Перабягалі печурыцы...
Калі расплаты час прыйшоў.

Ключыкі:

Адмыкаем,
Адчыняем,
Выклікаем
З нетраў вусцішных халодную расу,
Дзе пад жарам
ды дуброванька згарае,
Дзе раняе
ды каліманька слязу.
Хай ад'ядрыцца крыніца-маладзіца,
Падкарэнная,
Падмохавая,—
там,
Дзе жаўна
крычыць не накрычыцца,
Ломіць крылы ля ўчарнелага гнязда.

* * *

Песні болю ворагі чулі,
Толькі слёз у вачах не пабачылі.
Рукі голлем мае пагнулі,
Славу добрую перайначылі.

Прыляцелі коні з чужыны,
Ручаіны сцюдзёныя выпілі.
Патапталі нашы сцяжыны,
З нор і гнёздаў жывое выбілі.

Толькі сніцца мне,
Толькі верыцца,
Што глухімі,
як стогн,
начамі,
Нашы сцежкі дадому вернуцца,
Паразводзяць галлё плячамі.

І дажджы маладыя чуйна
Прыпадуць да зямліцы матчынай.
Песні болю ворагі чулі,
Толькі слёз у вачах не пабачылі.

* * *

Ой, у полі бяроза,
Там, дзе жыта радзей.
На асветленых голлях
Дзень палотны прадзе.

Хто ідзе — той ламае,
Хто ідзе — не міне.
Хто ідзе — запытае
Пра мяне,
Пра мяне.

Кінь валошку на сэрца,
А на кросны — вянок.
Хай лістота кладзецца
У імклівы чаўнок.

Дагары ў сініх росах,
Прытуліся ямчэй,
Ой, у полі бяроза,
Да маіх,
Да плячэй.

* * *

За трыма замкамі
Маці доўга спіцца.
Першы — важкі дзёран
З зялёнай травіцай.

А другі замочак —
Сыпучы пясочак.
Трэці,— хто не знае?! —
Дошкі замыкае.

Дзёран, кажуць людзі,—
На белыя грудзі.
Дошкі для нябогі —
На ногі...
На ногі...

* * *

Дачка:

Абяцаў каханы:
— Мой ад'езд не доўгі,
Трава толькі ўстане
З земляной падлогі.
Ужо трава даспела
І прабіла лаву,
Патачыла столю,
Бы ліхая слава.

Пачарніла сцены
Нядобрая сіла,
І вуглы у хаце
Бяда пакасіла.

* * *

Прыснілася: я ў сад хадзіла
І вішню чорную садзіла.
Яна цвіла, як я, вясною,
Чакала лета з травастоем.

На след свой зелен ліст кладу —
Ад сэрца адвяду бяду.
Сцялю лісток на след хлапечы,
Задумны сад пра нешта шэпча.

Вішнёвы пал даўно ачах.
Засохла лісце на вачах...

* * *

Маці:

Дзе пазвоньваюць цуглі ў аціхлых гаях
І дажджы жалудовыя мірсцяцца травам,
Праімчала варожая ўдалеч гайня,
Па зямлі рассяваючы попел крывавы.

Толькі клікні — пагоня памчыцца як бач.
Нібы дождж,
Перад хлопцамі пырскаюць стрэлы.
Над сынамі матулін зязюліцца плач
І звівае гняздоўе ў імхах абгарэлых.

Расцінае пагоня дуброву мячом,
Павілястыя сцежкі арэ капытамі.
Калі свісне страла —
закрываваціць плячо.
Не спыняюцца хлопцы:
— За намі!
— За намі...

Рэха жоўтым арэхам пакоціцца ў бор.
Перад ворагам сосны развешваюць нерат.
Дзіда ўдарыць —
і падае хтось на чабор.
Не спыняюцца хлопцы:
— Наперад!
— Наперад...



Прайшла пагоня — прыкмячай...
А на зямлі — апалы колас,
Ляжыць паранены...
Чакай,
Не адыходзь,
Падай нам голас...

Павекі падымі,
                    зірні:
Віруе лес лісцвянай стругай...
Ты, пушча, хлопца ахіні
Сваёй зялёнаю кальчугай.

Д а ч к а:

Калі твая, матуля, праўда,—
Лячу па сцежцы баравой,
Бягу туды, дзе стогнуць травы,
Гарачай зрошаны крывёй.

Бягу туды, дзе спіць каханы
На скрыжаванні трох дарог.
А на запечаныя раны
Кладзецца выспелы мурог.

Праз дзеразовыя узлессі
Я пабягу яшчэ й туды,
Дзе елкі пад карэннем песцяць
Крынічаньку жывой вады.

Ажыннік кінецца пад пяты,
На плечы ляжа дзераза...
Шляхі крываўнік храсткаваты
Перада мной аперазаў.

* * *

Быў неспакойным лес густы.
Пад елкай цёплаю, зялёнай
Бяда кладзецца спаць...
Са стогнам
Да долу хіляцца кусты.

Пугач напуджана крычыць.
За тонкай постаццю дзявочай
Паўзе Бяда вужынай ноччу,
Хаваючыся за карчы.



Паспяшае Бяда,—
ужо скора дасвецце,
Пацяруху страсае ў гнілую ваду.
Увярэднік балотны ля ног затрасецца,
Ядавітыя росы на дол упадуць.

Разбіваюцца зоркі, злятаючы з неба,
Аб сухія пянькі,
Аб сівыя карчы.
Толькі пырскае ўверх
Шкарлупінне іх срэбнае,
Мільгацяць уваччу сярод чэзлай начы.

Прысяшае Бяда —
А сцяжына ажыніцца.
Азірайся, дзяўчына, часцей навакол,
Бо калючы урочнік паблізу шчацініцца,
Бо змяіны драсён апаўзае на дол.

* * *

Я ў мядовае зёлкі спытаю,
У мядовыя травы ўпаду:
— Дзе струменіць крыніца жывая,
Дзе знайсці мне жывую ваду?

Дзе ты, бусельнік, лісце гайдаеш,
Дзе гадуеш сваё бусляня?
У нашай вёсцы, у вусцішным краі
Над гняздоўем вятрынкі звіняць.

На радзіме над кожным аконцам
Бусляняты свой клёкат вядуць.
Дзюбы вострыя, бы верацёнцы,
З аблычыны кудзелю прадуць.

Растрывожаны бусельнік-братка,
Раскажы, у якой старане
Між алешын і сосен гарбатых
Б'е з зямлі патаемны струмень?!

* * *

Як хараша вакол — зірні!
З дубовых лісцяў тут святліца.
І на азораным кані
Прыехаў месяц да крыніцы.

Ён загукаў у тураў рог:
— Гэй-гэй, развітваюся з вамі,
Ужо мой конік занямог,
Б'е аслабелымі нагамі.

Ужо вуздэчка не мігціць
І буйна грыва не палае,

У развярэджаным трысці
Хай сонца промні падымае.

Дзе золак камаром звініць,
Дзе туманоў сувой прадзецца,
Праехаў месяц на кані,
Аддаў дзяўчынаньцы вядзерца.

* * *

Дарог няма сюды.
З карэнняў
Крыніца свету б'е чалом.
Рагоча ўзімку летні гром,
Схаваны ў глыбіні праменнай.
Бяры сярэбрана вядзерца,
Каб зачарпнуць вады тае,—
Крыніца ж раптам растае,
Знікае паміж траў, здаецца.
То ўздыме бераг свой высокі,
І дна ўжо болей не відаць,
І да вады ўжо не дастаць,
Да гладзі дрогкай так далёка.
Нахіліцца дзяўчына зноў,
Унізе плешчацца сінеча...

Бяда, што выпаўзла з карчоў,
Яе штурхае моцна ў плечы.

* * *

Сіняквет зацвітае,
Малачай-санцагляд.
Над ракою світае,
Прэч, туманавы чад.

Нахіліся, Радзіма,
Над вадой у трысці,
Свой чаўнок лебядзіны
Ты на хвалі пусці.

Хвалі днішча адчуюць,
Віру дрогнуць разцы,
Хай атаву ладкуюць
На той човен касцы.

Шэры селезень крача
На агнях асакі.
Вёслы вынырнуць, плачуць
Над быстрою ракі.

Дзядзька-вечар пакосіць
Яшчэ луг не адзін...
А на беразе хтосьці
З-пад далонькі глядзіць...

* * *

Вы зачэрпніце жменькай
Залатую красу,
Прачынайцеся, жнейкі,
Дажынаць паласу.

На палосках забытых
Хай пацешыцца серп.
У прыпол табе жыта
Свой адчай атрасе.

Серп да новае долі
У падстрэшак схавай,—
Каб вагітнае поле
Прычакала жніва.

Каб для новай прычыны
Жнівень росы прыпас.
Каб спяшала Радзіма
На зажынкі штораз.

* * *

Уставай жа, каханы,
І сядай на каня.
Дзе твой меч гартаваны
Ці вуздэчкі звіняць?

Калі ў сэрцы збалелым
Стыне памяці жар,
Рэчка хваляю спелай
Хлопцу пырсне
у твар!

Каб згрызота не стыла
У грудзях маладых...
Над рачным жывасілам
Пралятаюць гады.

* * *

Рэчанька...
Рэчанька...
Гордая плынь.
Стыне ў затоках збуцвелая лотаць.
Ніцыя вербы ў глыбокую сінь
Рукі свае апускаюць па локці.
Там, дзе атава дыміць пад касой,
Дзе асака-удавіца, ой, рэжацца,
Там, дзе у вочы сонца — асой,
Вынесі, рэчка, на бераг вядзерца.

Рэчанька Ведрыч...
Глыбокая плынь!
Там,
дзе сівыя віры карагодзяць,
Выкінь на бераг высокі з глыбінь
Вёслы паданняў,
Вёслы стагоддзяў.
Рэчанька Ведрыч,—
Над берагам дня
Сваццэя-лаза у трывозе трасецца.
Вецер бусліныя крылы падняў,
Човен, бы крэўная песня,
нясецца!

## ПАМЯЦІ ІВАНА МЕЛЕЖА

Цішыня над палескім прасторам,
Выйшла рэчанька з берагоў.
Песня простая ў хустцы чорнай,
Як спяшалася ты да яго.
Вестка ўдарыла нечакана,
І салёны здавіў глыток.
Паляцела сцяжынкаю Ганна,
Ў жыта кінуўшы свой сярпок.

(Мне здавалася — ўсё няпраўдзіва:
Ціша ранняя, яснота дня...
Палыхнула чорная грыва,
Зацугляла жалоба каня.

Дык вязі, дык вязі сярод бору,
Пойдзем следам адзін за адным.
Плача маці, сціскаючы гора
Ў кулачку у нямоглым сваім.

Немагчыма...
Неверагодна...
Памяць глыбіцца з кожным днём.
Толькі дотык да рук халодных
Апякае мне сэрца агнём.)

Прыспяшалі праз вецер каляны
Франтавыя сябры сюды.
Астудзіце ж старыя раны,
Камандзіру дайце вады.
Шлях няблізкі...
Слата — у вочы...
Па дарозе, па франтавой
Чым далей ён з байцамі крочыць,
Тым бліжэй —
да перадавой.

## БАЛАДА ФРАНТАВОГА МЕДАЛЮ

Ішоў Іван да Мар'і.
Такі ваенны шлях.
Медаль зямным паўшар'ем
Пазвоньваў на грудзях.
А той медаль геройскі,—
Такому кожны рад...
Не раз у пешым войску
Быў ранены салдат.
Было герою грэшна
Патайны голас чуць:
«Не лезь, ваяка, першым,
Не лезь, а то заб'юць!»
А ён спяшаў, пяхота,
«Касіў» і «малаціў».
У важкіх тупаў ботах,
Зямлю сваю круціў.
Край абароньваў нечы,
Франты надточваў дню...
А смерць крычала ў плечы:
«Ўсё роўна даганю!»
Прыйшоў Іван да Мар'і,
Адолеў доўгі шлях.
Медаль зямным паўшар'ем
Пазвоньваў на грудзях.
Сынок шчаслівы крадзькам
Штосьць позіркам прасіў.
І зняў медаль свой бацька:
— Вазьмі, брат, панасі!
І сын памчаўся, рады,
Праз грозныя гады.
Пяхотныя парады
Разгортвалі рады.
З-пад хлапчуковых пятаў
Узвіўся чортам пыл.

А следам — гул снарадаў,
І грозны фронт,
І тыл!
...Вясною так нязвычна
Ударыў гром вайны
На ўзгорку ідылічным,
На міне ля сасны.
Дагнала смерць-нябога:
Плаці, раз бацькаў сын,
За мір і перамогу,
За той медаль адзін!
...Ды з бацькаваю славай
Усё бяжыць сынок
Па ўсёй зямлі крывавай,
Праз даль усіх дарог.
Праз боль акопных ранаў
І дымныя крыжы
Сын Мар'ін ды Іванаў
Усё жыццё бяжыць.
І звоніць гэтак шчыра,
І асвятляе шлях
Медаль,
паўшар'е міра,
Ў малога на грудзях!

## НА БЕЗЫМЕННАЙ ВЫШЫНІ

Ці ветру сон,
Ці посвіст кулі,
Ці лета ў ліўнях адбыло?!
Пагорка шэрая зязюля
Пад голаў ім кладзе крыло.

Адкукавала, адгукала
Іх спалымнелыя гады.
Сухой травой пазасцілала
Зязюленька хлапцоў сляды.

Сасонка спуджаная шпарка
Праз успамінаў дым ідзе.
Бы медсястра, прыцісне хмарка
Снег да прастрэленых грудзей.

І час не тоіць даўкі подых —
На безыменнай вышыні
Гарачы палымнее подзвіг
У снегу белага агні.

## ЯСТРАБОК

На вяселлі ў вачах юначых
Неба сіняга глыбіня.
Сорак першы...
Чэрвень гарачы...
Расхіні парашут, цішыня.
Туманоў прыціхлых аблога,
Развярэджаных росаў звон...
І ракетай ляціць:
— Трывога!
У каханай салодкі сон.

— Я вярнуся ў пару надзей...
Аблачына,
нібы матуля,
«Ястрабок» да сваіх грудзей
Асцярожна вось-вось прытуліць.

Выкрасае загад:
— Агонь!
Ўнізе выбухі чорныя — покатам.
Самалёта сівее скронь
У палёце за лінію фронту.

Небу сніліся віражы,
Неба чыстае снілася хлопцам.
Акрываўленым шлемам дрыжыць
Над зямлёй,
над Радзімаю сонца.

Колькі іх вышыня ўзяла
Над Карпатамі
і над Брэстам?!.
І ляцела асколкам крыла
Да пасадачнай сумная вестка.

...Серабрыстая птушка —
лайнер.
Хлапчукі не зводзяць вачэй.
Аблачынка спалоханай ланню
Па блакітнай сцяжыне — хутчэй.
Звонкі ветрык трапеча ў жменьцы.
Лета спелае —
над галавой.
І сынок прысеў на каленцы,
Самалёцік майструе свой.
Пройдзе час —
і над родным домам,
Над палёў жытнёвым святлом
І над памяці аэрадромам,
Мой сыночак,
махні крылом.



Белы гром над маёй галавой,
Што ты ходзіш па цёмнаму небу?
Што ты хочаш ад спелага хлеба,
Белы гром над маёй галавой?

Белы дзень за маёю спіной!
Прыйдзе час нематы і знямогі,
Ды падыме праменні з дарогі
Белы дзень за маёю спіной.

Белы конь у трывозе маёй,—
Ты ляціш раніцою да сына.
Хто цябе асядлае ўспамінам,
Белы конь у трывозе маёй?!

Прывячаю вясеннім агнём
Кожны подых і кожнае слова...
І жыццё пачынаюць нанова
Белы дзень...
Белы конь...
Белы гром...

## БАЛАДА ПРА «АСЕННІ СОН»

Мы выбуху таго не чулі,
Бо музыка мацней была
За посвіст нечаканай кулі,
За гром гарматнага ствала.
Даўно было...
Ці мо нядаўна?..
Аўто, кіруйся у аб'езд.
Па плошчы маршыруе спраўна
Ваенны духавы аркестр.
Ён грае вальсы, грае маршы...
Ды раптам выбухне, як стогн,
Апалых лісцяў учарашніх
Сон вогненны — «Асенні сон».
На полі франтавога бою
Свой сон апошні бачыць зноў
Трубач з прабітаю трубою
На скрыжаванні ўсіх франтоў.
Не пальцы нібыта ў знямозе,
Не рукі нібыта ў крыві,
А поўня лісцяў на дарозе
Ці ў лесе кіпень журавін.
А над забітым музыкантам
Схілілася...
(Грамчэй, «ура»)
Адна, з пагонамі сержанта,
Мелодыя, бы медсястра.
А над расхрыстаным маэстра
Ляцела праз гарачы град
Услед за жураўлямі песня
На мірны сённяшні парад...
Мы выбуху таго не чулі,
Бо музыка мацней была
За посвіст нечаканай кулі,
За гром гарматнага ствала...

## КРАСАВІК

Так нечакана —
красавік...
Той ноччу пад халодным снегам
Туліўся ціхі маладзік
І цемра выбухала смехам.
І раптам —
загулі вятры,
За вёску ліўні паляцелі.
Мае вясны,
мае пары
Звіняць праменныя арэлі.
І гнёзды ажылі ў гаі,
Каб дыхаць так,
як нашы грудзі.
Спявалі дні і ручаі,
Услед ішлі за песняй людзі.



На кароткім плячы жураўля
Над калодзежам срэбнай крыніцы —
Там
вядру маладому не спіцца,
Там
уніз яно йдзе спакваля.

Чыстай песняй яно мільгане...
Не пакуты,
не сон заімглёны,—
Даўняй мары каменьчык зялёны
Прынясе мне вядзерца на дне.

Завірыць,
заспявае зямля...
І зялёны каменьчык на волі
Стане ценем салодкага болю
На кароткім плячы жураўля...

# УДАВА

Ласкава так
і нечакана
Раса на травы ападзе...
Ёй на плячо,
як хлопчык, ранак
Свой мяккі чубік пакладзе.

Цяпло світальнае на вокнах,
Вячорны холад —
на душы.
І лёсу выплаканым вокам
Глядзіць калодзеж
на жанчын.

Яна — да радасці ахвочка.
Смяшок расколе, як арэх.
Чаму ж вадою да краёчкаў
Ніяк вядро не набярэ?..

## РЭХА

Імжыцца дождж.
І лета, як прадвесне.
Зязюль сівых лясная перадпесня.
І да апалых крокаў на расе
Ігліца прыліпае пакрысе.
Лясное рэха важка ападае
Да светлых сцежак зрошанага краю.
Каля зямлянак прысак не ачах.
Не засынае песня па начах.
А раніцою выспеленай зоркай
Устане рэха над сівым пагоркам.
І паляціць па моры верасоў
Вятрыска растрывожаных лясоў.
Віхор імчыць праз пушчы і разлогі,
Пянькоў падковы коцяцца услед.
І зноў шукае памяці дарогі
Ляснік тутэйшы,
партызанскі дзед.

## МЕДСЯСТРА

Ішлі на захад пехацінцы
Дарогай болю і слязы.
Завейна білі ў рукавіцы
Услед сухія маразы.

Ішлі суровымі палкамі,
Не прыпыняючы хады
І абеліскамі-штыкамі
Працяўшы ўзгоркі і гады.

Атакі...
Медсанбаты...
Штабы...
Медсёстрам цяжка удвайне.
Сержант смяяўся: «Эх вы, бабы,
Ну што вы петрыце ў вайне?!»

Сержант,
Як лёгка памыліцца...
Вайна крываваю была.
І ўвесь салдацкі боль сястрыца
На плечыках сваіх нясла.

## ТРЫПЦІХ НАДЗЕІ

### 1

Каб выказаць у зорны міг
Любоў, прызнанне ці пагарду,
Мы лушчым словы з першых кніг,
З друкарняў першых клічам праўду.

На шлях зямлі уздых бяром.
І ўзносіцца прадвеснем сінім
Над векам, нібы над кастром,
Францішак грэшны, сын Скарынін.

І ты ў надзеі паспяшай
Паслаць нашчадку дум пагоню,
Каб энтэлехія-душа
Крывёй прабілася з улоння.

«Потребно чести» ўсім было...
Кранутыя агнём пазнання,
Сваіх салодкіх, чыстых слоў
Шукалі мы на скрыжаваннях.

І пра адступніка багоў,
Хто разарваў няволі звенні,
З крыжа прамужнага свайго
Нам вечнасць прашаптала:
— Ленін...



Яго прасветлыя гады
Трапечуць гулка і гарача,
Як жылка на ілбе дзіцячым.
Святлом далёкіх зор пазначым
Яго брыва надлом круты,
Узлётны крок
яго хады.

Калі прашылі бліскавіцы
Сяродню новых ста гадоў,—
Каля мінуўшчыны грудоў
Цень бухенвальдаў,
плач удоў.
Каля крывавай касавіцы
І мыліцы...
І мілавіцы...

Мы узмужнелі на вачах.
Мы перамогу неслі громам
У век,
трывожна невядомы...
Ляцелі ў неба словы-бомы,
Упаў стазвонна зорны шлях
У заўтра нашага працяг.

2

Аглушаны зеніткай сноў,
Аціхне голас ветэрана.
Працуе тэлеграф кургана.
І не крані бяроз бінтоў,
Бо памяць торгае, як рана...

...Вуголлем коціцца вайна.
Ахвяру новую шукае,
Нам вусны жарам апякае,
А ўсё-ткі круціцца яна,
Зямліца, маці прасвятая.

Вясновы дзень —
вякоў ганец.
Да Ільіча адна дарога.
Так доўга йшлі —
А слоў нямнога:
Берлін...
Дзевятае...
Канец...
Жыццё...
Радзіма...
Перамога!..

* * *

Помніш,
друг твой на ўзятым пагорку
З самакруткай прылёг адпачыць.
Ды садзьмутая ўзрывам махорка
Сыпле зоркамі з неба ўначы.

Перадумана і пражыта.
Пераможана ў будняй хадзьбе.
Толькі друг твой, на фронце забіты,
Правярае на вернасць цябе.

Правярае цябе на бясстрашша,
На адкрытасць,
на боль,
на давер.
Помніш, разам ішлі ў рукапашнай...
(Ці лягчэйшая мужнасць цяпер?!)

Кіне раніца золкую зорку,
Ды туман выплывае з начы,
І здаецца, што хтось на пагорку
З самакруткай прылёг адпачыць...

8

На «асамблеі» нашых рэк
Віруе вечнае пытанне:
Якіх вытокаў чалавек
На самых новых скрыжаваннях?!

Святою вераю вякуй.
Трывожыць лёс вады і сушы,
Каб, выпрамляючы раку,
Не абмяліць залішне душы.

Плыві, рака майго святла,
Лячы патолю сілай праўды.
Ікары нашага сяла
Ляцяць да зорнай Іліяды.

Зямля з пазнанай вышыні,
Глядзі, блакітная такая...
Смуга лясоў і спеў крыніц
Людскія сэрцы акрыляе.

Той жар вазьмі ў вышыні, дзе
Прасцяг стагоддзя, дня, гадзіны
Касмічны тэлеграф кладзе
На жураўліны ключ
Радзімы.



У друкарні чырвонага лета
На лістоўкі нягасных падзей
Гнеў рабочага, слова паэта
Маладзенькі наборшчык кладзе.

Словы праўды людской з-пад абцасаў
З-пад ліхіх капытоў — да нябёс!
Песні новага грознага часу
Маладзенькі наборшчык прынёс.

На сенацкія плошчы пакліча
Голас вёсак тыфозных і ніў.
Дзекабрыстаў святыя аблічча
Маладзенькі наборшчык прысніў.

Па свайму неўміручаму праву
Для планеты дэкрэт акрылі.
Пасылае нам Леніна «Праўду»
Маладзенькі наборшчык зямлі.

Нас пакліча празрыстае заўтра,
Дзе касмічная траса лягла.
Усміхнецца зямным касманаўтам
Маладзенькі наборшчык святла.

...Я пайду пры сівым заранадзе...
Толькі зоркі — цяжэй ад слязін.
Жыць няпроста па ленінскай праўдзе,
Маладзенькі наборшчык, мой сын.

## ПАСЛЯ НАВАЛЬНІЦЫ

І сіні стынь,
                    і хмар пагоня.
Маланка між галля дрыжыць.
У дрэва мокрага на скронях
Лістоту серабраць дажджы.

На сцежцы градзінка жывая.
Трава —
              зялёны крыгалом.
Далоні раніца хавае
Пад цёплым буславым крылом.

Над садам крокі гром прыцішыў.
Сплывае ручаямі дождж.
Гарэць вугольчыкамі вішні
Пашарпаных платоў уздоўж.

## НА ВЫГОДЗЕ

Каля сядзіб,
                    што патанулі ў маках,
На бераг выбягае дзетвара.
Гурт хлапчукоў у бела-сініх майках
Да рэчкі вабіць летняя пара.

Яны ляцяць,
                    як ластаўкі,
                                    на хвалі.
Кідаюцца у рэчку на хаду.
Нагамі цiснуць,
                         нібы на педалі,
На пругкую,
                    халодную ваду.

Так лёгка ім на волі,
                                светлай самай,
Так хораша на сонечнай вадзе.
Байніцамі глядзіць з пагорка замак,
Што, нібы лёс, падлік гадоў вядзе.

## ЛЕТА

Рака маленства памяццю сагрэта,
Густой атавай плечы замяла.
Была рачулка хуткаплыннай Летай
Для ўсіх Гамэраў нашага сяла.

О строма, набрынялая вякамі,
Сівее лозаў цёплае руно,—
Ты нашы вершы несла паплаўкамі
Ці брала, як каменьчыкі, на дно.

Дзе маладыя хвалі адгулялі,
Высокі поўдзень к берагу грабе.
Цябе, рачулка, пэўна, выпрамлялі,
І выпрамлялі не адну цябе.

Здавалася, што моры бурапеняць,
А ў нас адно старыя невады.
У чужых чаўнах шукаючы натхнення,
Шукалі мы не там жывой вады.

І гэтак ціха, гэтак недарэчна
Надзеі цень гайдаецца вяслом.
З нас кожны ўрэшце прыйдзе на сустрэчу
Да той вясковай Леты за сялом.

Хапіла нам і праўды, і няверы.
Хапіла нам і радасці, і слёз...
І касары,
вясковыя Гамэры,
Стагуюць песні
ў спелы сенакос.

## ЛІРЫЧНЫ ЎСПАМІН

Страха ўжо месяцам абліта,
Стары [redacted] надзеяю сівой.
Гады лапаціць, нібы жыта,
У свірне старасці сваёй.

Дажджы прыходзяць, як унукі,
І студзяць хворую душу.
І немата яго дакукі
Плыве самотна на мяжу.

Зблажэлай памяці сувоі
Шукае дзед каля ракі.
Па хвалях коцяцца паволі
Яго юнацтва ручнікі.

І маладая, маладая,
І незабытая — яна...
Надзея з вуснаў аблятае
Ў яе далоні давідна.

Вясельныя імчацца коні,
Сяло... ў двары
                    чужым
                              гудзе.
За ўсё жыццё вось толькі сёння
Упершыню заплакаў дзед.

# КРЫНІЦА

Калі сасна іглiцу страціць,
Лясныя цешацца чмялі.
Ты светлым вокам аляняці,
Крыніца,
выглянi з зямлі.

Вось тут вясноваю парою
Заканапаціў норы мох.
Тырчыць над шышкаю старою
Карэньчык,
як зламаны рог.

Яшчэ з гнязда цяпло струменіць,
Галінку вецер напаткаў,
Дрыжыць ад першага здзіўлення
Гарачы след ад капытка.

## РУТВІЦА

Рутвіца надзеі дацвітае,
Жоўтым снегам
                    цепліцца ў барах.
Першы промень ціха калыхае
На галінах залатых зара.

Касавіца-цётухна на ўзмежку
Студзіць хусткай палкае чало.
Раніцой арэхавую сцежку
Праз густыя травы павяло.

Рутвіцу надзеі пакасілі.
У стагах духмяніцца краса.
Крэкчуць колы восені штосілы,
Жоўты снег
                    палае на вазах.



У спелай хмары чуйная патрэба.
За каўнярок сасонкі хлыне дождж,
І бліскавіцы, падаючы з неба,
Заскачуць па ігліцы басанож.

Прыроды жарт:
Сухое дрэва ўпала,
Здавіла горла сцежачцы крутой.
На ёй слядоў пакінута нямала —
І новы дзень за новаю вярстой.

На пні старым гады лясоў распяты,
За навальніцай просіцца спакой.
І раніцы, сляпыя кацяняты,
Шукаюць зноў туману сырадой.

Ласкава промень па расе заценькаў.
Жыве птушыны галас навакол.
І хочацца карэньчыкам слабенькім
Тут зачапіцца за гарачы дол.

Ды стане хмарна,
сцішацца разлогі.
Праднавальнічны сполах у галлі.
І ціша нараджае зноў трывогі
За лёс мае маленькае зямлі.

## ЗАМОВА ВЕТРУ

*Уладзіміру Караткевічу*

Прыходзіць вечар выспеленым шляхам,
І перад ночы вогнішчам сівым
Залётны вецер завядзе, як знахар,
Свой спеў трывожны, гойдаючы дым.

О, лёс вятроў, гарачы і суровы.
У горле памяць за тытунь гарчэй.
Ляцяць у прысак вогненныя словы,
Нібы слязіны палкія з вачэй.

Начной парою ён адзін на свеце
Адчуе сілу слова і агню.
Ўсе людзі спяць.
Старыя спяць і дзеці.
І толькі ветру продкаў не да сну.

Бяссонны рыцар зорных сутарэнняў
Склікае веча непадкупных слоў...
Вядзі мяне на споведзь да натхнення,
Пакліч мяне пад белае крыло.

Свой рэй пачні ўладарна і сурова.
О, вецер продкаў,
Вецер, гавары,
Каб праўнукі для гартавання слова
Распальвалі магічныя кастры.

# НА ЗЛОМЕ МАЛАНКІ

Паэма

Цераз моры, акіяны
Палячу ў далёкі край,
Бо люблю я ураганы,
Бо я ў буры чую рай,
Бо на дзікіх грывах хвалі
Маім думкам лягчэй плыць,
Бо у дзікай, страшнай буры
Я аб песні магу сніць...

*Цётка*

## 1

Быў двор засеяны сняжком,
За пацярухай вецер гнаўся.
А дзень кудлатым шчанюком
Ля ног маіх усё куляўся.
І мне здавалася тады
У бляску снегавой кудасы,
Што не канчаюцца гады,
Не блякнуць яркія акрасы.
Маленства светлая пара
Саткана з вэлюма сняжынак.
Цвіла ля самага двара
Зімы калючая ажына.
Хаўтурны звон зямлю прашыў,
І снег сінічкаю заценькаў.
Малая, ты чаму, скажы,
Свой смех схавала у кішэньку?
Нібыта трапіла ў сіло...
А вёска на сцяжыне хрусткай
Усё сачыла за малой,
Насунуўшы на бровы хустку.
Той смутны позірк дзень пры дні
Душу гняце ў жыццёвай плыні.

На пецярбургскія агні,
На ліхтары вячорнай Вільні,
На горад, спешчаны святлом,
На царскіх цэшак бляск хаўрусны
Глядзіць маўклівае сяло,
Сухія падцінае вусны.

2

Той дворык, рэчку і сасонку
Нярэдка сніла па начах
Мая сястра, мая Зялёнка,
Хаваючы ў вачах адчай.
Узор палёў на вышыванцы,
Слязы няпрошанай радок...
На пецярбургскай брукаванцы
Дрыжаў яе няўмелы крок.
Ці хрусне кволая галінка,
Ці пырсне промень з-пад крыла —
Іх чуйна слухае дзяўчынка
З таго маленькага сяла,
Дзе вецер цешыцца гарою,
Дзе бусел горла застудзіў,
Дзе журавінавай парою
На конях Яся дождж вазіў...
Каменны дом...
Для сіраціны
Няма тут радасці нідзе.
Ці з болю,
ці з агню,
ці з гліны —
Адкуль, дзяўчо, цяпло надзей?
Адкуль жа праўда сілы рэдкай,
Каб голым сэрцам прыпадаць
Да сонца, каменя і кветкі,
Да поля, дзе снапкі стаяць?

Так цяжка ў горадзе сялянцы,
Што аддае крывёй аброк.
Узор палёў на вышыванцы,
Слязы няпрошанай радок.

3

Ты накукуй, зязюля, шчасце.
Заранка-заранiца йдзе —
Гушчар лясны раскроiць насцеж,
Вiры рукамi развядзе.
Iдзе заранка-заранiца,
Ключы збiрае на шляхах
Ад звону соснаў i крынiцаў,
Ад сноў трывожных па начах.
Iдзе заранка-заранiца,
Ключ ад усiх хвароб нясе,
I ад гарачай скулянiцы,
Што села на сухой страсе.
(А сухавей — як сiвы волат.)
Аддай ключы, заранка, мне,
Каб не раз'ятрываўся голад
У нашай роднай старане.
Каб над курганам-пагулянам,
Дзе ўзбiўся маладзiк на кол,
Крывёй не ўпiўся птах паганы,
А двух галовах цар-арол.

4

Ля дарог, перапёлка, не плач.
Толькi муляе мiляў парэб'е.
Цi надарыцца вецер-дзяркач,
На страсе ўсю салому растрэпле.
Я пачну табе, бацька, здалёк:
На вазку маладосцi крылатай

Ў спіцы ўбіўся адзін васілёк
І ўсё круціцца, нібы пракляты.
Ён і праўда — пракляты ў багоў.
Колькі скрухі у кветачцы сіняй.
Хтосьці туліць да сэрца яго,
А дужэйшы — дык вырве і кіне.
І растопча, як праўду людзей,
Нашу волю і родную мову.
Свежы вецер у голлі гудзе,
Стогне край пад арлом двухгаловым.
У далоні маёй васілёк —
Нібы бацькава шчырае слова.
Косіць вока на лёгкі вазок
Гедымінава круча сурова.

5

То цемры чад, трызненне сноў,
То раптам вецер бразне форткай...
Аглухла Вільня ад званоў.
У парку ціха ходзіць Цётка.
Ды не, не цётка, а дзяўчо.
Ёй зараз кінуцца б дадому.
Тугой касою на плячо
Лягла спатоленая ўтома.
А фельчарка маўчыць адно.
Святла празрыстая залева.
Ірдзіцца восені радно
У роздуме світальным дрэвам.

6

Па атожылках вуліц парэпаных
Коціць Вільня трывогі сувой,
Засцілае ўсё чорным крэпам
Неба ў кратах над галавой.
Аб асколкі прамення параніцца

Песня першая на мяжы.
Пад абцасікам восеньскай раніцай
Тумановы шарачак дрыжыць.
Сушыць крылы крумкач стогадовы,
Грозных тронаў манаршых паштар,
Не табе пакляваць сёння словы
З вуснаў помсты, святла і ахвяр.
Не табе пралятаць над нядоляй.
Цэліць соснамі ў неба зямля.
Ёсць дзяўчынка самотная — Воля,
Сінявокая донька мая.

7

Лета-лецейка, добрага ранку.
Не сядзіцца пад плотам бядзе,
За дзяўчынай ад самага ганку
Па ваду да калодзежа йдзе.

Ці напіцца вадзіцы бядоце —
З калаўротам на дно загула!
Сёння доля ліхая не знойдзе
Ні чаўёнчыка, ні вясла.

Думкі-крылы, ляціце на бераг,
Злыя прымхі з касою прайду.
Я атаве старой не паверу —
Жоўтым невадам кіну ў ваду.

Перагрызлі чаўны пабярэжжа,
Строму вір заараў, нібы плуг.
Мне б вятры-ліхадзеі мярэжай
Навязаць на рыбацкі аструг.
Невадок, пагуляй на лілеях,
Пакрышы сітнягі, невадок.
Не супыніцца і не змялее
Рэчка памяці і дарог.

8

— Скажы, матуля, што за словы
Раскажуць нам пра лес сасновы?
— Зялёных шышак перазвон,
Зязюлін плач, савіны стогн.
— Скажы, дзе словы начавалі?
— У касінераў на прывале,
У пеўня пад крылом, гняздоўях,
Барознах і змяіных пнёўях.
— Што словы нашы саграває?
— Казюрка кожная малая,
Жніво, касьба і сон салодкі,
Яшчэ — запазуха малодкі.
— Што гартавала словы тыя?
— Дні баявыя, агнявыя
Ды крапіва сівая тая,
Што на магілах вырастае.
— Што словы нашы хочуць, людзі?
— Каб не забылі...
— Не забудзем.
— Ды берaглі у сэрцах...
— Знаем.
— Каб іх спявалі вы...
— Спяваем.

9

Яны стаяць у чорных пінжаках,
Салдацкіх шынялях і світах шэрых...
Пад позвамі фабрычнага гудка
Стаяць радкі сурова на паперы.

Сабе самой не верыцца —
з дзвярэй
Грымяць радкі абцасамі.

На сходку!
І віленская вуліца замрэ,
І выгукне, узрушаная:
— Цётка!

Ты чуеш спеў, Пашкевічанка,
Што вецер накруга нясе
Ў падшапкі дзён, вякоў падганкі,
Ў буслянкі-хмаркі на страсе.
Ты чуеш стогн,
хваробу,
голад?
Сягоння разам у баі
Салдацкі штык, рабочы молат,
Задумлівы сярпок жняі.

## 10

Твой лёгкі крок да скрухі
не прывык,
Твой лёгкі стан
ў шнуроўках сіняй ночы.
Па горадзе ідзе за Цёткай шпік,
За кожным рухам ваўкавата
сочыць.
За кратамі зямля здавён была,
Матулін спеў,
вясновая паводка...
Здаецца, ўсё б душою абняла
Пашкевічанка...
Элаіза...
Цётка...

Гушчару я цяпер праспяваю,
Дзе ласіца чарнічнік грызе,
Дзе іглiца звініць маладая

У сасны на сівой барадзе.
З-пад густых каранёў данясецца
Голас продка, што дрэва узнёс.
Беларусь — так радзіма завецца,
З нараджэння завецца мой лёс.

Хоць тупыя мячы перавіты
І вужамі, і цернем ажын,—
Прадзед мой, што загнаны, забіты,
З-пад надзеі шчыта — адкажы!
Чуеш мора шалёнага крыўды,
Чуеш голас бунтарскай крыві,
Дзе магілы дзядоў пераарыты,
Дзе дарогі чужынец скрывіў.
Граюць скрыпкі зялёнага краю
І цымбалы вясельных гадоў.
Бор на колкай галіне гайдае
Залатога світання гняздо.

11

Ты не крывіся, пане, болей.
Прашу газетку пачытаць.
Завецца проста: «Наша доля»,
Так толькі мог народ назваць.
Што наша доля зарадзіла?
Мятліцу скрухі?
Кукаль сну?
Ці ураджай старонкі мілай,
Надзеі светлай збажыну?!
У талацэ шчыруе жнейка
Над перавясламі радкоў.
На ніву просіцца жалейка,
Сястра бязродных пастушкоў.
То празвініць на ёй шчасліва
Дзіцячай казкі ячмянёк,

То закіпае грэчкі грыва,
Калі павее вецярок.
Ці раптам лясне бліскавіца,
Такое —
 часта у жніво.
Ды не схавацца маладзіцам
Пад сцішнае сасён брыво...

## 12

Вецер свісне, ударыць, як плётка,
На світанні зямля задрыжыць.
Захлынаецца вуліца сходкай.
Цётка, слова сягоння скажы.
За спіною — пагрозлівы пошчак.
Мацярынскі імгліцца пагляд.
Колькі вас на абураных плошчах,
Неспакойных маіх вершанят!
Вас трымаюць мазольныя рукі,
Вас нясуць на гарачых плячах.
Вы — і дзеці мае, і унукі,
Вы у сэрцы маім і ў вачах.
Вас гарачая куля мінае,
Вас чужыя шляхі не звялі,
Вас, малых, да грудзей прыхінае
Рэвалюцыя — маці зямлі.
Не маўчыце, мае вершаняты,
Галасок ваш ляціць угары.
Хай жа крышацца кутыя краты!..
Цётка, Цётачка,
 гавары!

Зеленагрывы конь лясоў
Слязу на травах выкрасае,
Пайду на покліч верасоў,
Там вецер пушчу закілзае.

Пяршыць гарачы каласок
У коўціку світальнай ночы.
Зеленагрывы конь пасёк
Ігліцу сноў маіх дзявочых.
Пайду да чорных буслаёў,
Для гнёздаў маю наламаю.
Каб вецер хмару не прывёў,
Сцяжыну у рукаў схаваю.

## 13

Каліноўскі,
Адзіны,
Кастусь...
На спатканне бягу баравінай.
Кветку белую — Беларусь
Прытуліла да сэрца жанчына.
Касінерамі дрэвы ля іх,
На галіне гайдаецца ветах.
Гэты вечар адзін на дваіх,
Песня лісця і стомленых кветак.
Каліноўскі,
Каханы,
Са мной...
Ты — калісьці, я — сёння ў трывозе.
Пад сустрэчы высокай сасной
Дзень стаіць на гарачым цакосе.

## 14

Чорна сею — зялёна ўзыходзіць...
Адмыкаю нарогам палі,
Выпускаю [illegible] барознаў стагоддзі
На прастор беларускай зямлі.
Што заплужыш, Мацейка-бядота?
А з сявенькі звіняць уразлёт

Не зярняты, а слёзы сіротак
У барозны развораных год.
Ляж, араты, засні, бедалага.
Хай аблокі завеюць чало.
Вырастае з разораў прысяга
І рабінай гарыць за сялом.
Спі, Мацей, на крывавых разорах,
Стануць грудзі за поле шырэй,
Тыя грудзі — збалелае гора —
Сын твой, парабак дворны, арэ!
Спі, Мацей, на разбуджаных гонях,
Хай у дол урастае спіна,
І для сына-салдата сягоння
Стане праўды дарогай яна.
У Мацея здранцвеюць калені,
Скамянее душа, упадзе,
І сягоння з тым чэрствым каменнем
Пралетар гулкай Вільняй ідзе.
Задарожаны і заараны,
Скамянелы на горкай вярсце,
Выпраўляе у свет неспазнаны
Трох сыноў сваіх бацька Мацей.

15

Ляціць над намі вецер малады
І сонцавы,
і касцяны,
і ўрошны.
Шумяць барамі светлыя гады,
Ўскіпае гнеў, бо памятае кожны
Той грозны час, як шыбеніцы крук
Падцяў за горла віленскую плошчу,
І хлопчык толькі, касінера ўнук,
Ад страху не закрыў далонькай вочы.

Унук паўстання, дай жа мне руку;
Ідзе за Цёткай хлопчык
несмяротны,
І страшна так жалезнаму ваўку —
«Мужыцкай праўды» коцяцца
палотны.

Дарогі вышываны паясок
Пасуе так да белае кашулі,
Не задрыжыць калінавы масток
Над рэчкай, дзе самы-вякі паснулі.
Ідзі, мой хлопчык, са шляху не
збоч,
Не саступіся ў схованку-бярлогу —
Са скуры гады выпаўзуць за ноч,
Сплятуць на ногі лапцікі ў дарогу.
Ідзі, унук бялявы, праз лясы,
Купалля кветка блісне сярод ночы,
Каб чула сэрца волі галасы,
Каб ацаліў народ сляпыя вочы.

## 16

Дом каменны пад'ездам ашчэраны.
Суд ідзе,
Грамадзяне, устаць!
Гаварыце, прысяжны паверань,
Толькі, братка, не бунтаваць.
Страпятаўся званок, як рыбіна.
Глухне шэпт у трывожных радах.
А лістоўка ўлятае праз шыбіну
Галубком у залю суда.
Судзяць лета, вясну і восень,
Цёплы снег на сялянскай страсе,
І спрадвечнага неба просінь,
І лугі ў тумановай расе.
Судзяць матчыну калыханку,

Кроў рабочых на шэрых мурах,
Судзяць сёння зямлю-сялянку,
Нашу праўду і вогненны сцяг.
Б'юць указам,
нянавісцю,
плёткай,
Каб хоць гэтак свой страх суняць
Перад словам, што скажа ім Цётка...
Суд ідзе...
Грамадзяне, устаць!..

## 17

Закажанеў дзядуля на пагосце,
Сутуліць плечы старажытны Львоў.
Ты, Цётка, хто? Выгнанніца ці госця?
Якой ты веры і якіх ты слоў?
Стаяць муры стагоддзяў і касцёлаў,
Хвастамі б'юць каменныя ільвы.
Тут столькі іх,
манархаў і прастолаў...
І сам сабе нямілы Львоў сівы.
На вочы хмару Стрыйскі парк насунуў,
На сцежках восень разліла сургуч.
Ужо гуцул Франко на папу плюнуў —
На галаве сціскаецца абруч.

Пішу пра восень.
Толькі ўпотай
Пачуць мне трэба,
Як цяжка дыхае лістота
Пад цёплым дрэвам.
Душа маўклівая у скрусе.
Галінка праўды...
Далонню цёплай дакрануся
Я лістападу.

Сягоння песню, мае сябры,
Я прысвячаю
Бажку каменнаму ўгары
І шклянцы чаю.
Радок пакоціцца па стале
Тугім каштанам.
Пярынкай чуюся
ў крыле.
Я — закахана.

## 18

Назавеш ты: акравак маланкі...
Скажаш: вырасла ў барацьбе.
Я — звычайная,
Я — сялянка,
Скруха першая у цябе.
Я ільнамі дзявочыя мары
Ля ракі разаслала даўно,
І надзей высявала пажары,
І бяды свае ткала радно.
Чорны будзень,
Жытнёвае свята...
Вецер свішча, сумёты грабе.
Я гадала, дальбог, на каляды
І нарэшце прыснiла цябе.
Упляту у вянок гэты, Янка,
Лугавыя істужкі свае...
Я — звычайная,
Я — сялянка...
Толькі трошкі слабей ад яе.
Пасылаю свой ліст да народа,
У сяле прачытаюць гуртом.
Бачыш, Янка, як «Хрэст на свабоду»
Я нясу па дарозе крутой.
Напісала свой ліст надвячоркам

Сінім ветрам і цёплым дажджом,
Бліскам думкі і згадкаю горкай,
Саламянай страхі капяжом.
Я на кроснах любові паштоўку
Сёння ткала сама давідна.
Абсыпала лістотаю Жоўква
Залацісты сувой палатна.
Бліскавіцы галінка з-за хмары
Прыляцела ў пакойчык якраз.
Словы, словы...
Вас клічуць папары —
Засяваюцца гоні для вас.
Словы, словы...
Вы пырсніце градам:
Мір — хацінам, палацам — вайна!..
Празвінела над бурай крылата
«Беларускае скрыпкі» струна.

19

Перамерзлі гамашы на ганку,
У далоньцы — дарог пугаўё.
Я табе, Паўлючок мой, чытанку
Пасылаю з далёкіх краёў.
Як пагоняць малога на працу —
Схопіць ветравы вір-перакруць.
Толькі ў панскіх высокіх палацах
«Салаўёў на вячэру пякуць».
Па чытанцы, па ўспененай хвалі
Слізгане акуньком маладым
Смех-бліскунчык, што ў сэрцы хавалі
Пастушкі ўсе ліхія гады.
Праз чытанку, нібы праз дуброву,
Вецер-лунь барадою трасе.
То ляціць сіняй сойкаю слова,
Жолуд казкі у дзюбе нясе.

Льецца слова, скрыпіць палазамі,
Падкідае у печ вугалёк,
А ці скоціцца раптам слязамі
У твой вершык, малы Паўлючок?!

Ой, дуда,
Ты хаўтурніца хаты.
Кіпень спеву сцены абліў.
З пастушкоў у салдатчыну брата
Паўлюка...
Паўлюка...
Павялі...
Ой, кажане, кажане-кароста,
Што ж не сеў ты на плечы бядзе?!
Мой Багрымка,
Быў з саджанец ростам.
Адгукніся, які ты і дзе?
У якой ты казарме каравай
І без мовы, і без душы?
Цётка я, бліскавіцы акравак,
Ты хоць стогнам мне адкажы.

20

Калі сухі румянец выпякае
На вуснах у мяне тугу і страх,
Калі душа ад смерці уцякае,
Маім вачам не спіцца па начах.
Праз вечары, праз хмары растаропу,
Праз хрыплы стогн, бяссоння неспакой
Цягнік ідзе ў Заходнюю Еўропу,
І горад б'е званамі над ракой.
Да мора б ехаць мне ў цяпле вагона —
Так дактары казалі...
Дзівакі!
Іду глядзець Сікстынскую мадонну —

Абраз сусветнай славы на вякі.
Прыйду ў музей —
і ўраз я скамянею.
Што кажуць вочы скрыўджаныя мне?
Ці вечарэе ў іх,
ці толькі днее?
Дзе позірк той пабачыла раней?
Я ўспомніла, як вечарам калісьці,
Кудзелю думкі ціха спрадучы,
Схілілася сялянка да калыскі,
Цяпло грудзей цякло ў раток даччын.
Такі спакой —
хаця на вокнах краты.
Святло душы,
хоць змрок хаціну еў...
І я тады, малая, выйшла з хаты,
Не вытрывала позірку яе.

## 21

Стары рыбак з сівою галавой
Закіне ў мора сеці праз акенца.
Да хаты невад прынясе прыбой,
І рыбкай залатой у ім — Венецыя.

Хай вечар адпаўзе ў нару, як вуж.
На мяккі ложак пасцялю радзенца.
Кладзецца на падушку з белых руж
Мая надзея светлая — Венецыя.

Як здароўечка, родная Цётка?
Што прызначана на вяку?
Па дарозе, чужой і далёкай,
Водзіць сонца яе за руку.
Просяць вочы ў чужых краявідах:
Задымі над страхой, камінок!

Толькі гойсае вецер-завіда,
Толькі бліскае нівы шнурок.
Каля шведскае вёскі ў трубы
Граюць маршы старыя лясы.
Нос ячменны, аўсяныя зубы —
Тут палеткі нябачнай красы.
Вёска родная, ўспомню ў чужыне
Поля скібіну з соллю расы,
Ластаўчыныя гнёзды ў адрыне,
На пагорках вякоў верасы.
Дні маленства — ой, гыля вас, гыля!..
Сярод рэчкі касцёр на плыце.
Так захочацца ўзняцца на крылах,
Па птушыных шляхах паляцець!

22

Цётка, Цётка...
Стамлёны паэт...
Перашэпты свецкіх салонаў.
Кожнай жылкай адчула, што свет
Напярэдадні звадак і войнаў.
Рэстаранчык гудзе.
Ды ўпрысёрб
Валаводзяць жыццё сваё хлопы.
Выпіраецца голаду горб
На спіне у паненкі Еўропы.
Час замрэ, бы зацуглены страх.
У царкве разамлелі харысты.
Ляснуў вечар-жакей па нагах
Бедных маклераў і міністраў.

А ў салонах — віры-круцялі,
Завядзёнка маны і падлоты.
Хоць гісторыі мякка сцялі
Ці квактухай навязвай ля плота.

Маці, маці, не слухайся сэрца,
Засвітала на нашым двары,
Кінь, старэнькая, вераценца,
Гэтак хочацца пагаварыць.
Я гляджу на гарачае мора,
Вузялкі сваіх думак вяжу.
Слухай, маці, што хвалі гавораць:
— Даганю...
Ператру...
Раскрышу...
Будзе бура —
ты чуеш, матуля?
Я на беразе — перад ёй.
Вецер стан мой смугою атуліць,
Сэрца ўсходзіцца хваляй тугой.
Перуны, вы ўпадзіце нажамі,
Ветразь мары маёй — на вадзе...
Над дарогамі і над крыжамі —
Чую я —
навальніца ідзе.

23

Цягнік марудны, як пралётка.
Вагон рассыпаў перазвон.
Глядзіць задумлівая Цётка
Праз вокны перабытых дзён.

Не той прастор, не тыя стрэхі,
Ды слуп мяжы дзяржаўнай знік.
Хвілінак цвёрдыя арэхі
Патрушчыў коламі цягнік.
Пайшлі сасонкі і бярозкі,
Уцеха ўтомленых вачэй.
Ды чым бліжэй да роднай вёскі —
Тым сэрцу робіцца гарчэй.

## 24

Вясною — птушкаю зялёнай —
Адсвяткавала дзень радзін
Мая сястра, мая Алёна...
Быў сын у мацеркі адзін.
Сялянка доляй засявала
Барозны вузенькіх палос.
У жыта сына спавівала,
Каб ён асілкам рос ды рос.
Ты ўкаласіся густа, доля,
Каб серп зняможыўся ў руцэ.
Заснуў сынок снапком на полі:
Паўзе казюрка па шчацэ.
Я — на хвіліну толькі, людзі,—
Гарадь спатоленым агнём
Налітыя утомай грудзі,
Саскі, спрамененыя днём.
Калі ў хмарынах сонца чэзне,
Асмяглы крывіцца раток.
Не даспявала маці песню...
А ты расці, расці, сынок.
Над полем думак і надзей
Не разагнуць спіну матулі.
Сяродня-поўдзень ападзе,
Праменнем плечы ёй атуліць.
А вечар, як сівы млынар,
Сваю работу пачынае.
Сярпамі чорнымі вайна
Жыцця палоску зажынае.
Мой сын, крывінка светлых дзён,
Табе ісці па гэтай пожні.
Няхай гудзе вячэрні звон
Над галавой, над крокам кожным.
Нібы маленства матылёк —
Такі празрысты і бяссілы —

На кожным пальчыку гадок
Сядзіць, на ноч стуліўшы крылы.
Замоў ад смерці ў нас няма,
Каб адвялі убок сцяжынку.
Вайна... галодная вайна
Крывяніць дзясны аб скарынку.

25

Нарэшце восені пажары...
Ці ж вінаваты лістапад,
Што з рукава набухлай хмары
Пасыпаўся смяротны град?!
На подсвіт халады насталі.
Вятры паземныя з двароў,
Нібы вужы, ў хлявы ўпаўзалі,
Цягнулі малако з кароў.
Зіма як бач прыходзіць зранку.
Для босых, змучаных дзяцей
Дзядок-мароз на цёплым ганку,
Бы лапці, казачкі пляце...

— У лісіцы, у Яніны,
Сёння самы слаўны дзень.
Дзень анёла ў гаспадыні.
— Добры дзень вам, добры дзень!
— Добры дзень у вашу хату,—
Кажуць хорам зайчаняты,—
Ў нас качан капусты ёсць,
Будзе рады кожны госць.
— О-хо-хо, мяне, мядзведзя,
Насмяшылі вы да слёз.
Хоць і дужы я, ды ледзьве
Мёду цэлы воз давёз.
Мёд — вось гэта, кумка, ежа,
Не капусце той раўня...

— Я прыбег, паночку, першы,—
Не здаецца зайчаня,—
Значыць, лепшая капуста
Між усіх звярыных страў...
— Лепей з'ешце хлеба лусту,—
Тхор нарэшце не стрываў.
— Ой, пакіньце спрэчкі вашы,—
Просіць ліска ўсіх гасцей,—
Як абрыдне з мёдам каша,
То й капустачкі з'ясце.
А з прысмакай усялякай
Пірагоў я напяку.
Пачакайце, толькі маку
Камары нам натаўкуць...

## 16

Ты калыхай, матуля, сына.
У сне малое так расце.
Крывавай світкаю каліна
Ляжыць на студзеньскім шчыце.
А за высокімі платамі,
За кудасовай церухой
Варочае вясна плытамі,
Плыве надзей людскіх ракой.
І ты павекі не прымружыш,
Калі адчуеш, Юзачок,
Што стаў вялікі ты і дужы...
Сыночку ціха на плячо
Злятае жаўранак надзеі,
Каб звіць гняздо ў яго душы.
Адорваць птушка тая ўмее,
Ты ўсё ёй, хлопчык, раскажы.
Прашу не многа:
Ботаў пару,
А для сястрычкі — каснічок,

Для дзеда — мяккага папару,
Для бацькі — са снапамі ток.
Прашу для маці канаплянку,
Такую, каб на ўсю спіну.
Яшчэ хачу, каб сонца ўранку
Цвікі ўганяла у сцяну...

27

Вярнулася да роднай вёскі,
Да каміноў,
Да той палоскі,
Што заараў яшчэ Мацей,
Глядзі, а жыта ўсё ж расце...
За паўвярсты — ад лазарэтнай,
За паўвярсты ад той, сусветнай,
Ад той пяхотнай, пракаветнай,
Гнілой, акопамі не ўгрэтай,
Шпітальнай, злой да хрыпаты,
Вашынай, гразкай,—
паўвярсты...
Ці паўвярсты ўжо мной пражыта?!
Чарнее за спіною жыта.
Вярнулася —
і зноў дарога,
І маці ўспамінае бога...

Палаюць вечара масты,
Туман ляжыць крывавай ватай.
Там смерць расставіла пасты,
Штоночы абыходзіць хаты.

Ты, Цётка родная, скажы,
Чаму так водзіцца ў народзе:
Георгіеўскія крыжы
З драўлянымі заўсёды ў згодзе.

## 28

Каля мурашніку пяхотную
Шынельку прымярае дзень,
А дым стаіць высокім плотам,
І пералазу — анідзе!
Народ мой, сейбіт і араты,
Ну што тут сеюць,
Што тут жнуць?
Паручнік буркне: «Велькі страты...»
Рукой махне сабе: «Ды ну!..»
Атака ўскінецца, як бура,
Сястра на стогны
пабяжыць.
З чырвонымі крыжамі фура
Ад выбухаў ажно дрыжыць.

## 29

Перавозы маёй маладосці гараць,
Перавознікі ціха на сенніках спяць.
Дзе пад крыжам чырвоным гарача ляглі,
Дзе пад свежым, сасновым —
у голай зямлі.
Кажановым асколак хай чыркне крылом,
Смерць салдацкай шынелькай укрые сяло.
Дабрадзейкі-сясцёркі у белых халатах
Абмінуць палявыя шпітальныя хаты.
Сёння бою пякельнага шэры абоз
Маладога салдаціка ледзьве давёз,
Твар замшэлы смугою акоп зацярусіў.
— Ты адкуль, небарака, адкуль?
— З Беларусі...
— Чым табе перавязку зрабіць—і не знаю...
— Ды як маці
у вёсцы — травою размаем...

— Чым жа раны засыпаць?
— Чаборам сухім...
— Чым цябе бінтаваць?
— Ды аерам тугім...
— Дзе мацней твая рана скразная
пячэцца?
— Мне б дадому, сястрыца,
Загоіцца сэрца...

Дык ляжаш плазам — пыл засцеле.
Вайна параненых начэй
Паўзе па склычаных пасцелях
І ношку дыму валачэ.
Запомніцца усё навечна.
Я Цётка, чуеш ты, вайна?!
Мне слуп агню ўгінае плечы,
Ад ран чужых баліць спіна,
Бязрукага мне ныюць жмені,
Гарыць бязногіх басанож.
Сляпыя слёзы — што каменне,
Сячэцца, бы асколкі, дождж.
Калі патрапіць не памерці,
Аціхне гром над галавой —
На ўсё жыццё мне хопіць смерці,
Акопнай, гнойнай,
дымавой.
Хоць ад штыка я захінуся,
Мне праўды той не пераджыць...
— Адкуль ты, хлопча?
— З Беларусі...
— Ну чым цябе, браток, лячыць?!

## 30

Вёска дрэмле...
Холад позні...
Мокры дым паўзе са стрэх.
Ноччу падаў лёгкі снег
І звіваў на вокнах гнёзды.
Азірнешся — крыж убогі
Прытуліўся да зямлі.
Ціха кашляць пачалі
Дні, палёгшы ля дарогі.
Секане завея плёткай —
Пырснуць голейкі бяроз.
Студзень сані ў двор прынёс:
Цётка!
Колькі струнаў у скрыпкі? Чатыры...
Як у годзе чатыры пары.
Словы сэрца папросяць у вырай,
Панясуць мае песні вятры.
Песня першая — матчына песня,
Ёй не колка на пожні сухой.
У зярнятку тугім ёй не цесна
І не мулка пад шэрай страхой.
То спрадзецца на верацёнца,
То ўпляцецца ў зацішак лясны,
Ой ты, песня, кляновае донца,
Як захочаш напіцца вясны,
То гарыш дацямна на лучынах,
У цяпельцы малых пастушкоў.
Песня маці гаротнай і сына,
Песня звонкіх вясельных падкоў.
На хаўтурах яна,
На радзінах,
Песня выткана на ручніках,
Калі нас выпраўляе радзіма
Ўслед за шчасцем у зрошаны шлях.

## 31

Прыляцела завея адтулека,
Дзе разлогі палёў ля сяла.
І страха, нібы хустка-кураўка,
Ціхай хаце на плечы лягла.
Кашаль горкі малога душыць,
А хлапчынка:
— Цяткé, не кранай.
Я вялікі, я во які дужы...
— Ляж, сыночак малы, засынай...
І здаецца — успыхне ложак
На гарачай смяротнай мяжы.
Ты адужаеш, быць не можа,
Ты яшчэ па расе пабяжыш...

Наша песня — сірочая доля,
Што пажата сярпамі бяды.
Песня — згадка астрожнага болю,
Песня горкай старой лебяды,
Лугавога чырвонага шчаўя —
Упрысёрб за сялянскім сталом.
Песня словам душу прычашчала.
(Вецер-выдзерыкуст за сялом.)
Падгалоска, ці до табе сілы,
Падпрыпеўка —
пад слёзным дажджом
Ці тваё, далібог, намачыла,
Ці тваё зарадзіла ўжо?!
Ці вянчалі цябе, ці хрысцілі
У куце бізунамі нягод?
У вяроўкі вас, песні, круцілі
Крыўды горкія кожны год.

## 32

Калі вятры, як служкі божы,
Панеслі зноў марозны пыл.
Дзядок сівенькі ўпаў на ложак,
Да рэшты выбіўшыся з сіл.
Як кажуць, толькі косці й скура.
А ён вось жартам адпіліў:
— Глядзіце ж мне, каб на хаўтурах
Гарэлку рэшатам пілі.
Быў дзед прасмолены і чорны,
Гарэў стары ліхім агнём.
І думкі дзеда, нібы жорны,
Бяду малолі дзень за днём.

Праз усё сяло дарога
Пратаптана для старога.
Лекарка ў парозе стала.
Хата ціха застагнала.
Лекарка, не плач, нябога.
Ты пачуеш сёння многа...
Шэпчуцца цяпер аб нечым
Соланкі ў гарачай печы.
Перашэптваюцца вілы
Са снапамі ў сенцах стылых.
А касе ў падстрэшшы сніцца
Залатая касавіца.
Сняцца жоўтыя пракосы
І праменні злыя восы.
У касы, у маладзіцы,
Галасок — як у сініцы,
Спіце ўсе цяпер да лета,
Неба комінам сагрэта...
Забалелі хаце сцены.
Пахне сена...
Пахне сена...

Песня трэцяя — песня выгнання,
Песня сіверу і каляін.
Выпраўлялі яе на світанні
То пяшэчкам, то ў сене драбін.
А за ёю — дзяржаўная ўлада,
А за ёю —ураднікі ўслед.
Нібы дзікае зелле, няпраўда
Патачыла ўсе ганкі ў сяле.
Дык бывай, дарагая матулька,
Зноў калодкі на вольнай душы.
Песня, ластаўка-берагулька,
Прыляці да мяне, раскажы...

Песня, песня...
Змаганне, выгнанне...
Звон ланцужны з Сібіру ажно...
Даляціць тая песня і гляне,
Нібы сонца, у наша акно.

## 33

Спачні, мой бацька родны, ціха.
Абраз пацее у куце.
Дзе сілы ўзяць?
Хвароба-ліха,
Як дзіч-барадаўка, расце.
Спачні, мой бацька, ціха ў хаце.
Да ложка зноў дачка ідзе.
Тваю кашулю сёння маці
Прыцісне сумна да грудзей.
Мы так даўно з табою разам
Не карацілі вечарок.
А на стале,
як плачам,
прасам
Глянцуе маці каўнярок.

Як ты казаў —
я паўтарыла,
Як ты спяваў —
я падвяла.
Павер жа, бацька, хопіць сілы,
Каб абысці мне паўсяла.

Застыну крыўдаю нягоды,
Заклякну прымхаю вятроў.
Бальшак сівы, белабароды
Каля магіл, каля двароў.

Жрацы не ведаюць спачыну.
Няўжо у новы век дарма
Цягну я на плячах сцяжыну
З тых сёл, якіх ужо няма.

Чаўнамі вырай не дагналі.
Скрыпіць капліца, як мазоль.
Мы пачыналі, пачыналі,
Са жвіру здабывалі соль.

Спагада скруціцца пятлёю,
Знявера з кручы панясе,
Заручыць з роднаю зямлёю,
Пакоціць слова па расе.

Пагоні, вечныя пагоні.
Нарэшце выбухне пажар —
За незасеяныя гоні,
За сны забытыя ахвяр.

І кожны раз, пачаўшы справу,
І кожны раз, пачаўшы крок,
Мы правяралі праўду славай,
Мы клалі сэрца на радок.

Замятуха слядоў не чапае,
Азірнуся —
маленства маё
Каля плота стаіць і чакае
Красавіцкіх сваіх салаўёў.
Азірнуся — бярозы сівыя,
На страсе нашай снегу кажух.
Зноў ля ног маіх круціцца, вые
Вецер злосны — займаецца дух!
Што ж ты, маці, пад лютаўскім небам
Хоць бы хустку на плечы ўзяла.
Светлым словам мяне, чорным хлебам
Выпраўляеш сягоння з сяла.
Выпраўляеш мяне сярод будня,
Снег на сцежцы ўтаптаны, як брук.
Мне вядром падымае са студні
Развітальныя зоркі хлапчук.
Дык ляціце, завейныя коні,
Дык нясіце ў абуджаны свет...
Выйшла вёска на шэрыя гоні
І махае хусцінкай услед.

Ля дарог нашы песні крыжацца
І гняздзяцца на восях сукоў.
Пакаці іх каменнем — не скрышацца
На выбоістай сцежцы вякоў.

Дзён гарачых парэпалі пяты
На жыцця несмяротнай вярсце.
Песню мужнасці ў будзень і свята
На чырвоным ўзнімаем шчыце.

# ЗМЕСТ

## I ПЕСНЯ... I ЗЯМЛЯ...



## МАЛАНКА ПАМЯЦІ

**Коўтун В.**

56 На зломе маланкі: Лірыка.— Мн.: Маст. літ., 1981.— 110 с.

45 к.

У новай кнізе лірыкі паэтэса закранае гераічнае мінулае нашага народа, яе хвалюе наш сённяшні працоўны дзень, піша яна і пра запаветныя мроі нашага сучасніка. Многія творы В. Коўтун маюць фалькларную аснову. Паэма «На зломе маланкі» прысвечана нашай цудоўнай паэтэсе-рэвалюцыянерцы Элаізе Пашкевіч (Цётцы).

К $\frac{70403-158}{М\ 302(05)-81}$ 59—82

ББК 84 Бел 7

Бел 2

**Валентина Михайловна Ковтун**

НА ИЗЛОМЕ МОЛНИИ

Лирика

Минск, издательство «Мастацкая літаратура»
На белорусском языке

Рэдактар Р. М. Яўсееў. Мастак С. А. Кашкурэвіч. Мастацкі рэдактар А. М. Малышава. Тэхнічны рэдактар А. Б. Барадзіна. Карэктар Т. В. Трубач

ІБ № 1297

Здадзена ў набор 09.06.81. Падп. да друку 23.10.81. АТ 07668. Фармат 70×90 1/32. Папера друк № 1. Гарнітура школьная. Высокі друк. Ум. друк. арк. 4,09. Ум. фарб.-адб. 4,24. Ул.-выд. арк. 4,31. Тыраж 5000 экз. Зак. 1686. Цана 45 к.

Выдавецтва «Мастацкая літаратура» Дзяржаўнага камітэта БССР па справах выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю. 220600, Мінск, праспект Машэрава, 11.

Мінскае вытворчае паліграфічнае аб'яднанне імя Я. Коласа. 220005, Мінск, Чырвоная, 23.